# ДАРОГА К ЧЫТАЧУ

Доўгая і няпростая была дарога гэтай кнігі да цябе, мой дарагі чытач. Апавяданні і аповесці, напісаныя ў 70-80 гады XX стагоддзя, толькі зараз сабраліся пад адной вокладкай. Іх, надрукаваных у часопісах і газетах, напэўна, чыталі яшчэ твае бацькі.

Мастацкую вартасць твораў ацанілі вядомыя беларускія пісьменнікі, старэйшыя таварышы. Яшчэ ў 1969 годзе, пазнаёміўшыся з апавяданнем “Ленкин характер” (сённяшняя назва “Алёнка”), народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль рэкамендаваў яго для газеты “Зорька”. Апавяданне было надрукавана 3 красавіка 1970 года. Гэты дзень я лічу пачаткам літаратурнай творчасці.

Аповесці чыталі У. Калеснік і М. Чарняўскі. Уладзімір Андрэевіч выдзяляў “Цвёрды арэшак” за арыгінальнасць пабудовы, якая дала аўтару магчымасць праўдзіва раскрыць характары герояў, а Мікола падрыхтаваў гэтую аповесць да друку ў часопісе “Бярозка”, дзе ў той час працаваў.

Пісьменнік — дзіця свайго часу. У прыгодніцкай аповесці “Першы подых вясны” вяртаюся ў 50-ыя гады, калі сам вучыўся ў школе, калі ў Заходняй Беларусі арганізаваліся і мацнелі калгасы.

Дзякуючы дапамозе спонсараў нарэшце з’явілася магчымасць выдаць кнігу. Словы шчырай удзячнасці я выказваю намесніку старшыні Жабінкаўскага райвыканкама Святлане Іванаўне Майсейчык, а таксама старшыні Жабінкаўскага раённага аддзялення Беларускага фонду міру Любові Іванаўне Ярмашук. Дзякуй і нашай зямлячцы Іне Анатольеўну Бурко, якая ілюстравала кнігу.

Кніга ў тваіх руках, мой юны сябар. Чытай і расці шчаслівы, дужы і справядлівы!

12 лістапада 2004 года *Расціслаў Бензярук*

## АЛЁНКА

Ясная раніца. Сонечны прамень прабраўся ў Алёнчын пакой і спыніўся на твары дзяўчынкі. Яна расплюшчыла вочы і адразу зажмурылася. Потым падхапілася і пачала апранацца. І тут пачула Міколкаў голас:

— Ле-е-ена! Алё-ё-нка!

Яна выйшла на балкон. Міколка адразу прыкмеціў дзяўчынку і паўшэптам, каб ніхто, апрача яе, яго не чуў, прапанаваў:

— Алёнка! Давай забяромся ў агуркі да цёткі Веры.

Дзяўчынка задумалася. Калі хто ўбачыць, будуць зваць зладзейкай. Нядобра... Аднак як сябе адчуваюць хлапчукі ў такіх выпадках? А што, калі адзін раз паспрабаваць?

Агароджа была высокай. Алёнка — на зайздрасць хлапчукам — першай узабралася на яе і скокнула ў агарод. На яе зашыкалі:

— Што ты?! Што ты?! А калі ўбачыць цётка Вера?

Алёнка, аднак, не раздзялала іх страху.

Зразумеўшы, што іх ніхто не ўбачыць, хлапчукі таксама саскочылі на зямлю. І плюхнуліся жыватамі. Алёнка глянула на іх перапалоханыя твары і ледзь не засмяялася.

— Кладзіся па жывот, паўзі і, калі намацаеш, рві, — падказаў Міколка.

Варта было дзяўчынцы легчы на жывот, як адразу адчула: боязь перадалася і ёй. Стала чамусьці здавацца, што вось-вось зойдзе цётка Вера і ўбачыць іх.

А потым дзеці сядзелі на бервяне і елі агуркі. Агуркі былі яшчэ кволыя, нейкія пупырыстыя і горкія. Кожны еў, стараючыся не глядзець на суседа. Настрой быў сапсаваны. Усе разумелі, што дарэмна страху нацярпеліся, але маўчалі.

Міколка сказаў хлопцам, якія кідалі на Алёну недаверлівыя позіркі:

— Не бойцеся... яна... нікому не скажа.

— А вы ўсё-такі баязліўцы. Нашкодзілі — і трымціце! Я такіх не выдаю, — сказала Алёна і пакінула хлапчукоў.

Час быццам спыніўся. Дзяўчынцы здавалася: цётка Вера даўно ўсё ведае і збіраецца зайсці да іх. Ад адной думкі, што ўсе будуць знаць, што Алёнка — зладзейка, дзяўчынцы рабілася млосна. Было ясна: няма нічога гераічнага ў «агурковым налёце».

Нарэшце дзяўчынка не выцерпела, выйшла прагуляцца. І трэба ж — сутыкнулася з цёткай Верай. Сутыкнулася — і адскочыла ўбок.

Цётка Вера ўважліва паглядзела на дзяўчынку. Чырвань заліла Алёнчын твар.

— Алёнка, ты была з хлапчукамі ў агародзе? — спыталася

цётка Вера і ўсміхнулася. Алёнка ледзьве выдавіла:

— Бы-ла…

А раніцай Міколка клікаў дзяўчынку гуляць у казакоў-разбойнікаў. Алёнка доўга адмаўлялася. Потым прыйшла да хлапчукоў. Дзяўчынцы не хацелася сварыцца з імі. Аднак у Міколкавых вачах было столькі просьбы і ёй зрабілася так шкада яго, што яна, каб не расплакацца, закрычала:

— Не хачу! Не буду! Учора завялі ў агарод, потым цётка Вера на мяне сварылася.

Хоць і не сварылася цётка, ды Алёнка прыдумала. Прыдумала і паверыла. Быццам крыху лягчэй стала.

Бацька ўжо сядзеў за сталом, калі зайшла Алёнка. Ён адразу заўважыў: нешта ў дачкі здарылася. Аднак запытаў пра гэта, як закончылі снедаць.

Дзяўчынка расказала ўсё-ўсё.

— Нядобра атрымалася, — сказаў ён задуменна. — Вельмі нядобра. Значыць, вырашыла не сябраваць з хлапчукамі?

— Ніколі-ніколі… Гэта яны… яны…

— А давай падумаем, — прапанаваў тата. — Ты ж сама згадзілася. Ніхто цябе за руку не цягнуў. Ды і сябрам тваім без цябе сумна.

Тата падышоў да акна, адхінуў фіранку.

— Яны цябе чакаюць. І ты, бачу, засумавала па іх.

Ён хвіліну думаў, потым зноў загаварыў:

— Барозны, пэўна, засыпалі? Трэба пачысціць, ясна?

Алёнка ўважліва слухала бацьку. Яна і сапраўды ўспомніла, як пад пятою Сашы Астапава абсыпалася зямля. Ды і не толькі ў Сашы…

Хлапчукі сумавалі. Спрабавалі самі гуляць, ды не хапала звонкага Алёнчынага смеху. А няма весялосці — няма гульні. Хлапчукі нават не паднялі галавы, калі падышла дзяўчынка.

— Хочаце гуляць у казакоў-разбойнікаў? — запытала яна.

Падхапіліся ўсе, быццам хто ўзняў з зямлі.

— Хочам! Хочам!

— Я згодна гуляць з вамі. Калі зробіце тое, што прапаную.

— Што? Што? Кажы! — пачулася некалькі галасоў.

— Мы ўчора вытапталі градкі цёткі Веры, — сказала дзяўчынка. — Давайце паправім іх. А потым — гуляць.

Раптам стала ціха-ціха. Потым загаварылі-загаманілі ўсе разам. Асабліва выдзяляўся голас Сашы Астапава.

— Калі мы пойдзем, — сказаў ён. — дык цётка Вера даведаецца, хто да яе лазіў у агарод.

— Правільна! Правільна, Саша! — падтрымалі яго.

— Не, няправільна, — прамовіў Міколка. — Не баяліся ўчора ў

агарод залезці — дык не бойцеся, што пра гэта даведаюцца. Калі вы не пойдзеце, я з Алёнкай пайду адзін.

Хлопцы яшчэ пастаялі, паспрачаліся — і неўзабаве вярнуліся а рыдлёўкамі.

Толькі Саша Астапаў незадаволена цыркнуў на Алёнку:

— Прыду-у-мала!

Але пайшоў за ўсімі.

## АДЗІНЫ ЯБЛЫК

Яблыньку з лесу прынёс аднойчы бацька.

— Хадзем, сынок, пасадзім, — паклікаў ён Толіка.

Хлопчык першы кінуўся ў сад. Выкапалі з бацькам яму, прынеслі чарназёму. Калі дзічку пасадзілі, Толік паліў яе вадой.

— А прыжывецца — зробім прышчэпку, — сказаў Толіку бацька.

Лясная яблынька прыжылася. І тата прышчапіў дрэўца. Толіку, які ўважліва сачыў за яго працай, падміргнуў:

— А цяпер будзем чакаць яблыкаў.

— І доўга чакаць?

— Не, нядоўга... Няхай гэта яблынька будзе тваёй. Даглядай яе. А вырасце — не шкадуй яблыкаў нікому. Дзяліся з сябрамі, — прамовіў, ідучы ў хату, бацька, потым весела дадаў: — у першую чаргу — з Зінай Архіпчык.

Зіна — Толікава суседка. Яны вучацца разам. Заўсёды сядзелі за адной партай. І сёлета, у пятым класе, Антаніна Іванаўна таксама пасадзіла іх побач. Хлапчукі часам любяць пакпіць з Толіка, іншы раз нават дзяўчынкай называюць. Але Толік не зважае на гэта. Яму заўсёды добра з Зінай.

Толік выходзіць на вуліцу. Пад нагамі шамаціць апалае лісце. Сумна хлопчыку. Бацька ў камандзіроўцы, а Зіна хварэе, ужо два дні пустуе месца побач з Толікам.

Хлопчык яшчэ пахадзіў крыху па вуліцы і, невясёлы, вярнуўся ў хату. Маці заўважыла гэта і спачувальна сказала:

— Ты б Зіну праведаў. Ёй жа таксама сумна адной.

— Дык мы ўжо хадзілі да яе цэлым класам.

— А нічога. Схадзі яшчэ.

— Добра, мама...

Зіна ляжала на ложку, прыкрыўшы павекі.

Цётка Поля падала Толіку крэсла, ён прысеў каля дзяўчынкі. Зіна ўсміхнулася:

— Ты прыйшоў мяне праведаць?

— Але-е... — ціха прамовіў Толік. — Табе лепш?

— Лепш... — адказала Зіна і раптам папрасіла: — Пакладзі руку на лоб.

Толік хутка працягнуў руку: лоб гарачы.

— Трыццаць сем градусаў, — паціху кажа дзяўчынка.

— А ўчора вечарам было трыццаць дзевяць.

Толік не ведае, чым памагчы Зіне. І раптам успомніў пра яблыньку, пра адзін яблык, які застаўся на ёй.

«Прынясу яго Зінцы. Пачастую. А можа, і палягчэе крыху?» — падумаў Толік і сказаў:

— Я табе яблык прынясу.

— Які яблык?

— Што ў нас на яблынцы вырас.

— Няхай павісіць яшчэ…

Яблынька зацвіла вясной першы раз. Толік радаваўся ружова-белым кветкам. Але тата пазрываў іх. Толькі на самай вяршалінцы пакінуў некалькі.

— Навошта? — запытаў Толік.

— Каб яблынька не перасілілася і добра ўрадзіла на наступны год, — растлумачыў тата.

На яблыньцы вырас чырванабокі яблык.

… Калі Толік вярнуўся назад, Зіна ўжо заснула. Хлопчык у нерашучасці спыніўся ля дзвярэй.

— Зіна спіць, — ціха сказала цётка поля.

— Я тут яблык ёй прынёс, — прамовіў Толік.

— Добра… — цётка Поля прыемна ўсміхнулася. — Дзякую, Толік.

Ён развітаўся і хуценька выйшаў.

Праз некалькі дзён Зіна прыйшла ў школу. Яна трохі схуднела. Відаць, нялёгка перанесла хваробу. Каб неяк заспакоіць дзяўчынку, Толік казаў:

— Ты не бойся, Зіна, я па матэматыцы табе памагу. Чэснае слова!

Зіна весела ўсміхалася і ківала галавой.

І вось яны ідуць па вуліцы, заходзяць у Толікаў двор і спыняюцца каля яблынькі.

Зіна ўспомніла Толікаў яблык і спытала:

— Вунь там ён вісеў?

— Ага…

— Мама кажа: гэты яблык мне памог.

— Як памог?! — здзіўляецца Толік.

— А так. Ты прынёс яго, я з’ела — і адразу стала папраўляцца.

— Пра-аўда? — з радасцю, нібыта і верыць, і не верыць Толік. — Ведаеш, калі мы з татам садзілі яблыньку, ён сказаў мне, каб я не шкадаваў, дзяліўся яблыкамі з усімі. І ў першую чаргу з табою, бо ты мая сяброўка.

## КАПІТАН

Вясновае сонца ласкава зазірала ў клас. У такія дні не хочацца сядзець за партай, цягне на вуліцу. Хутчэй бы выйсці на спартыўную пляцоўку, згуляць у футбол або валейбол.

І Паўлік Сташэня, лепшы футбаліст класа, у думках ужо забіваў гол у вароты шостага «Б». Няхай злуюць «бэкаўцы»! Няхай паспрабуюць адквітаць мяч.

Паўлік ачнуўся ад радасных думак толькі тады, як настаўніца сказала:

— А зараз правядзем геаграфічную гульню.

Клас адразу ажывіўся. Усе любілі такія гульні.

Ганна Сафронаўна выклікала Сташэню да дошкі і, калі ён узяў у рукі ўказку, сказала...

— Дапусцім, што ты капітан...

Нібы знарок, настаўніца зрабіла паўзу. Вучні ажно заёрзалі на партах. Нікому ў класе не навіной, што Паўлік марыць стаць капітанам далёкага плавання. Нават калі-нікалі клікалі жартам: «Ка-пі-тан».

Усё пачалося пасля таго, як прыехаў з флоту Паўлікаў сусед-марак Андрэй Савейка. Хлопчыку чамусьці здавалася, што Андрэй абавязкова павінен быць самым галоўным на караблі. Аднак сусед расчараваў яго:

— Не, чаму? Самы галоўны ў нас быў капітан. Куды ён падасць каманду плыць, туды і плыве карабель.

З таго дня Паўлік цвёрда вырашыў: «Буду капітанам!»

І вось цяпер Ганна Сафронаўна кажа:

— Значыць ты, Паўлік, — капітан. Знаходзішся ў Уладзівастоку, — Сташэня хуценька паказаў горад.

— Атрымліваеш радыёграму: SOS — няшчасны выпадак! І каардынаты: 140 градусаў заходняй даўжыні і 40 градусаў паўночнай шырыні. Трэба дапамагчы людзям. Калі ласка, капітан!

Паўлік раптам адчуў поўную бездапаможнасць.

— Трэба... трэба... — няўпэўнена замармытаў хлопчык.

— Хто дапаможа Сташэню?

Амаль усе паднялі рукі. Ганна Сафронаўна выклікала Петрыка Грыцука.

— Каб ведаць, куды плыць, — бойка адказаў той, — трэба на карце адшукаць каардынаты...

— Як гэта зрабіць, я толькі-толькі тлумачыла, — перапыніла Петрыка настаўніца, — і я думаю: Паўлік справіцца тут самастойна.

Але не. Указка ткнулася спачатку ў адным месцы на карце, потым — у другім, затым зусім апусцілася.

— Так і загінулі б людзі. Не, такім нельга даверыць карабель, — з дакорам гаварыла Ганна Сафронаўна, пакуль Паўлік ішоў на месца.

У яго гарэлі вушы. «Нельга даверыць! Нельга даверыць!..» — чулася яму ў гэты час.

А на перапынку Петрык пакпіў:

— Вось і дапамог японцам. Капіта-ан!

Паўліку хацелася стукнуць яго. аднак стрымаўся і адвярнуўся: сам жа вінаваты!

Дадому Паўлік вяртаўся невясёлы. Ішоў, не зважаючы на лужыны. Яго раз-пораз абганялі. Аднак ён, здаецца, нікога не заўважаў.

Не заўважыў бы ён, пэўна, і Сцёпку Савейку, самага меншага Андрэевага брата, калі б той не тузануў яго рукаў.

— Паша, зрабі мне караблік, — і працягнуў газету.

Паўлік нават уздрыгнуў ад нечаканасці. Сёння яму ні з кімгаварыць не хацелася. Але ў Сцёпкавых вачанятах было столькі просьбы, што адмовіць яму не змог:

— Давай газету.

Спрытна ён зрабіў караблік і пусціў на ваду. Караблік паплыў, а Паўлік, не адрываючыся, сачыў за ім.

У яго раптам з’явілася думка, так што хлопчык не змог стрымацца.

— Сцёпка, давай пагуляем.

— А як будзем гуляць? — запытаўся малы.

— А так, — і Паўлік узяўся за лапатачку, якою, відаць, Сцёпка спускаў ваду з лужыны, і хутка на сярэдзіне насыпаў астравок.

— Вось тут я, — задуменна гаварыў Паўлік і раптам узмахнуў рукою, быццам нешта перакрыжаваў у паветры. — А вось тут — пункт перасячэння кардынатаў: 140 і 40. Усё проста.

На яго здзіўлена глядзеў Сцёпка. А Паўлік сарваўся з месца і са словамі: «Знайшоў, знайшоў!» — пабег да дому.

Сцёпка толькі паспеў крыкнуць наўздагон:

— А гуляць калі?

Але Паўлік яго не чуў.

На наступным уроку геаграфіі хлопчык напрасіўся сам адказаць. Учора ён не раз і не два праверыў сябе, нават папрасіў, каб тата праэкзаменаваў. Атрымлівалася.

Сёння Паўлік хутка адшукаў 140 мерыдыян і 40 паралель і трапіў у Японію. Затым па каардынатах адшукаў Адэсу.

— Добра, Сташэня. Вось цяпер мы можам даверыць табе самы-самы вялікі карабель, капітан. Бо ведаем: усё будзе ў парадку, — сказала Ганна Сафронаўна.

І сёння слова «капітан» гучала не насмешліва, а як пахвала.

## ДОБРЫ ЗВЫЧАЙ

Мы гулялі ў «марской бой». Рыгорка ўжо «збіў» асноўныя мае «караблі», а я — толькі два, калі ў пакой не ўвайшоў, а ўляцеў Васіль Хомчык.

— Ведаеце: да бабкі Настассі… зайшоў незнаёмы!

— Ну і што? — спакойна запытаў яго Рыгорка.

— Не, ты разумееш: зусім-зусім незнаёмы!

— Мала хто гэта можа быць, — стаяў на сваім Рыгорка. — Мо, хто ў госці прыехаў?

— Апрануты не па-святочнаму. Хто ж гэтак у госці ходзіць?

У Васілёвых вачах было столькі таямнічага, што мы рушылі за ім.

Прыпыніліся ля плоту бабкі Настассі, і ў гэты самы час дзверы ў доме адчыніліся. На ганку з'явіўся незнаёмы ў клятчастай кашулі, цёмных штанах і ботах-кірзачах. За ім выйшла бабка.

Незнаёмы нёс вядро з вадою. Ён павярнуўся тварам да бабкі Настассі і весела сказаў:

— Бабуля, вядро мы вернем пад вечар!

— Добра! Добра! — адказала тая.

Мы адбеглі далей ад весячак, аднак разысціся, не даведаўшыся пра ўсё, не маглі.

Хоць і не дамаўляліся, але пайшлі за незнаёмым. Ён усё больш і больш аддаляўся ад вёскі. Мы не даганялі і не адставалі: ішлі крокаў за дзесяць ад яго.

Незнаёмы спыніўся так нечакана, што мы зрабілі яшчэ некалькі крокаў наперад. Цяпер нам ужо нічога не заставалася, як падысці да яго.

— Куды вы?

Мы пацiснулі плячамі.

— Куды і вы, — прызнаўся Рыгорка.

— Дык вы што, мяне ахоўваеце?

Мы маўчалі.

— Ах вы, мае целаахоўнікі! Ну, дык давайце знаёміцца, — і працягнуў руку. — Пятро Чарнавокі. Дазваляю называць проста дзядзька Пеця…

Далей мы пайшлі ўчатырох.

Далёка за вёскай, на балоце, куды мы пабойваліся нават хадзіць, стаяла нейкая цікавая машына. Падобнай мы ніколі-ніколі не бачылі! Каля яе сядзелі і стаялі два хлопцы і дзве дзяўчыны.

Дзядзька Пеця пазнаёміў нас.

— Гэта мае целаахоўнікі! — весела сказаў ён. — Яны мяне ахоўвалі, каб ніхто не напаў.

— Зусім не, — прамовіў Рыгорка. — Мы проста хацелі ведаць,

куды вы воду неслі.

— А што вы тут робіце? — запытаў у дзядзькі Пеці Васіль.

— Торф шукаем. Калі многа знойдзем, у вас завод пабудуюць.

На развітанне я сказаў геолагам:

— Па ваду, калі ласка, не хадзіце больш. Мы прынясём.

Назаўтра раніца была светлая, сонечная. Яшчэ дзе— недзе паблісквала раса, а мы ўжо беглі да бабкі Настассі.

— Вядро вам? — перапытала яна. — Гэта для таго чалавека, што ўчора прыходзіў?

— Для таго, бабуля, для таго.

— Для таго — не шкада. Відаць, добры.

І вось мы ўжо нясём вядро, поўнае вады.

Раптам... ад удару яно коціцца па лузе. Мы азіраемся: перад намі Федзька Хмыз. Вялікі задзіра, ён даўно ўжо атрымаў мянушку Хмызняка.

Васіль сціснуў кулакі, але я заступіў дарогу.

— Не трэба.

І сам падышоў да Федзькі:

— Ты, пэўна, не ведаеш, куды мы нясём ваду?

— А што?! — дзёрзка запытаў Хмызняк.

— Там, на балоце, — людзі. Яны шукаюць торф. І, можа, у хуткім часе будзе пабудаваны завод. Пакуль што пра нашу вёску амаль ніхто не ведае. А то напішуць: «Ля вёскі Беразнякі пабудаваны буйнейшы ў свеце завод...»

— Ну, прама-такі? — не паверыў Федзька.

— Ну, не ў свеце, дык у Беларусі... А гэта мала?

Федзька нічога не адказаў, крыху патаптаўся і пайшоў у вёску.

Мы пастаялі, падумалі: ісці з пустымі рукамі ніяк не выходзіла. Нас там чакалі людзі, чакалі ваду. І мы вярнуліся да калодзежа бабкі Настассі.

Што, разлілі? — спытала бабка. — Так увесь дзень будзеце насіць.

— Не, больш не разальём, — адказаў Рыгорка.

Расказваць пра ўсё, што здарылася, нам не хацелася. Мы хуценька набралі вады і панеслі зноў.

Ужо ўсе геолагі напіліся, падзякавалі за дапамогу, калі Рыгорка раптам прыставіў далонь да вачэй, каб лепш кагосьці разгледзець.

— Глядзіце: Хмызняк!

Федзька нёс да лагера геолагаў вядро.

Ён цяжка дыхаў, пот выступіў на твары, на яго кірпатым носе, аднак ад дапамогі ён адмовіўся.

Гледзячы на яго твар, дзядзька Пеця ўсміхнуўся. Ён, відаць,

не мог здагадацца, што гадзіну назад мы гатовы былі пабіцца з Хмызняком.

Федзька доўга круціўся ля дзядзькі Пеці. Было відаць, што яго нешта непакоіць. Нарэшце ён запытаў:

— А завод пабудуюць у нас?

— Не ведаю. Торф, праўда, ёсць, але ці многа? Вось праслухаем усё балота, тады ведаць будзем.

— Як гэта праслухаем? — здзівіўся Федзька.

— Прабурым ва ўсіх кутках — будзем ведаць, колькі тут торфу...

За апошнія тыдні Федзьку нібы падмянілі. Ён старанна насіў ваду геолагам, і мы, здаецца, з ім пасябравалі.

А сёння ўсе ішлі развітвацца з геолагамі. Яны закончылі ў нас работу і пераязджалі на новае месца.

— Завод у вас будзе, хлопцы, — гаварыў нам дзядзька Пеця. — Брыкетны. Торфу тут многа.

Ён паглядзеў на нас і ўздыхнуў:

— Шкада мне з вамі, хлопцы, развітвацца, — і, заўважыўшы нашы засмучаныя твары, раптам усміхнуўся і весела зірнуў на ўсіх: — Хутчэй сядайце ў круг!

Усе паселі.

— У нашых дзядоў, прадзедаў быў добры звычай, дапамагаць адзін аднаму. А на развітанне пілі кубак дружбы. Каб памятаць адзін пра аднаго. Давайце і мы вып’ем!..

Разам пілі ваду, і яна здавалася нам вельмі-вельмі смачнай.

## МАРЫНІН ХЛЕБ

Кожны ў лагеры займаўся сваімі звычайнымі справамі. Адны гулялі ў футбол, другія тоўпіліся ля валейбольнай пляцоўкі, а трэція ў цяньку чыталі кнігу…

Пецька Грыневіч і Віця Моўчан сядзелі за шахматамі. Віця хутка перастаўляў фігуры, нават сябра падганяў:

— Заснуў ты, ці што?

Раптам Пецька высока ўзняў свайго каня і голасна аб'явіў:

— Шах!

Віцеў кароль адступіў, а Пецька заўзята атакаваў:

— Шах! Яшчэ шах! І… мат! Ура! — Грыневіч аж запляцкаў у далоні.

У гэты час паклікалі вячэраць.

За сталом, чакаючы, пакуль прынясуць ежу, Пецька падміргнуў сябруку. Невясёламу Віцю здалося, што з яго смяюцца. Ён схапіў акраец хлеба, што ляжаў на стале, і запусціў ім у Пецьку. Хлеб упаў на падлогу.

Побач была выхавальніца Ірына Міхайлаўна. Яна строга сказала:

— Хлебам не кідаюцца! Віця, падымі акраец!

— А чаму ён смяецца з мяне? — паспрабаваў апраўдацца Моўчан, але Ірына Міхайлаўна паўтарыла:

— Віця, падымі хлеб!

Хлопчык незадаволена палез пад стол…

Начальнік лагера Юрый Сяргеевіч, як заўжды, сабраў вечарам выхавацеляў і важатых, каб падвесці вынікі працоўнага дня.

Ірына Міхайлаўна ўзнялася з месца:

— Здарэнняў асаблівых не было, толькі Віця Моўчан кінуў хлебам у Пецю Грыневіча.

Юрый Сяргеевіч задумаўся.

— Ірына Міхайлаўна, — праз хвіліну загаварыў ён, — вы не расказвалі дзецям пра помнік у Арэнічах?

— А трэба было б. Вы ведаеце пра подзвіг Марыны Грабарук?

— Ведаю. Толькі вы аб гэтым расказалі б лепш. Вы ж, Юрый Сяргеевіч, у гэтых мясцінах жылі, тут партызанілі…

Назаўтра, калі дзеці снедалі, у сталоўку зайшоў начальнік лагера. Старшая важатая Атаніна Навумаўна паведаміла:

— Дзеці, пасля снедання, калі ласка, не разыходзьцеся далёка. Юрый Сяргеевіч раскажа вам адзін выпадак, які адбыўся ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Калі ўсе паелі, начальнік лагера запытаў:

— Вы бачылі помнік у Арэнічах?

— Бачылі, — адказалі многія.

— А каму ён пастаўлены?

— Марыне Грабарук, — галасоў прагучала менш.

— А хто такая Марына?

Усе паціснулі плячамі.

— Гэта звычайная жанчына, — праз хвіліну загаварыў Юрый Сяргеевіч. — Але менавіта яна адыграла вялікую ролю ў маім лёсе. І не толькі ў маім…

— Якую ролю? — не вытрымала Света Бондар.

— Калі пачалася вайна, я быў прыблізна вашага ўзросту — гадоў трынаццаць-чатырнаццаць. Я чуў аб партызанах, рваўся ў лес, але маці і слухаць не хацела: «Які з цябе яшчэ ваяка?»

Юрый Сяргеевіч задумаўся. Дзеці прыціхлыя сядзелі вакол яго, чакалі.

— …Было гэта ранняй вясной сорак трэцяга года. Яшчэ снег не сышоў з палёў. Ледзь-ледзь пачынала днець, калі ў хату ўскочылі немцы і два паліцаі.

— Не.

— Брот, — загергетаў фашыст, а паліцай хутка пераклаў:

— Хлеб, хлеб давай!..

Маці выняла бохан хлеба.

— Іншага няма?

Маці пакруціла галавой: няма!

Кінулі хлеб — і з хаты.

… Апоўдні паліцаі і немцы пачалі зганяць людзей да школы. Сяляне ішлі неахвотна. Што яшчэ прыдумалі гэтыя вылюдкі?!

Амаль уся вёска сабралася.

Камендант нарэшце загаварыў. Ён гаварыў пра тое, што вялікая Германія хоча парадку, аднак ёсць людзі, якія працівяцца гэтаму. І паказаў убок. Там салдаты з вінтоўкамі ахоўвалі невысокую жанчыну — Марыну Грабарук. Яна побач з рослымі немцамі здалася яшчэ меншай.

А камендант усё гаварыў. Мы даведаліся, што ноччу натрапіў на засаду і загінуў партызан, які вяртаўся з вёскі. У яго быў знойдзены бохан хлеба.

Паклікалі апазнаць мёртвага. Многія ведалі, што гэты хлопец з суседняй вёскі (да вайны на вячоркі прыходзіў у Арэнічы), толькі ўсе паціснулі плячамі: не ведаем, не наш!

Нічога не даведаўшыся, немцы тут жа, у нас на вачах (каб страшна ўсім было!) павесілі жанчыну.

Марынін муж быў кавалём (ён памер за год да вайны) і зрабіў для жонкі лепшыя, чым у каго, бляхі для выпечкі боханаў хлеба. Яна выпякала боханы адметныя, не падобныя на іншых. Вось і апазналі. Ведаў бы каваль, што такое здарыцца…

Праз два дні было дазволена пахаваць Марыну. Але не так, як

іншых, на могілках. А ля дарогі, каб усе бачылі і не паўтарылі тое, што яна.

Раніцай, як толькі прачнулася вёска, пайшла чутка: на Марынінай магіле хтосьці паклаў бохан свежага хлеба.

Хадзілі глядзець, бы на цуд. Радаваліся.

Немцы прачулі пра хлеб толькі пад абед. Камендант аддаў загад: забраць хлеб, а калі на магіле ён зноў паявіцца, вёска будзе спалена, а людзі расстраляны.

Людзі гаварылі:

— Бач, і мёртвай Марыны баяцца!

А пасля вайны на яе магіле часта ляжыць свежы, духмяны хлеб. Як памяць пра Марыну, пра яе жыццё і смерць…

— А як вы ў атрад пайшлі? — не вытрымала Светка, калі Юрый Сяргеевіч закончыў свой расказ.

— Пасля таго дня мяне ўжо ніхто не мог утрымаць у сяле, — адказаў начальнік лагера. — Я падаўся ў лес і стаў партызанскім разведчыкам.

Юрый Сяргеевіч узняўся. Усе падняліся, як па камандзе.

— А цяпер сходзім на Марыніну магілу.

Нехта прапанаваў узяць з сабою хлеб, і ўсе падтрымалі:

— Возьмем!

— Возьмем!

Віця Моўчан пабег у сваю палату.

Піянеры прыбралі магілу. Потым паклалі на яе хлеб і застылі на хвіліну, шануючы памяць пра жанчыну, што пахавана тут.

Калі ўжо збіраліся адыходзіць, праз натоўп прабіўся Віця. Побач з боханам хлеба ён паклаў свой акраец.

Усе затаілі дыханне. Віця шукаў вачамі Пецьку, але таго не было. «Дзе ён падзеўся?» — ажно занепакоіўся Моўчан.

Пецька з’явіўся хвілін праз пяць. Ён нёс вялікі букет васількоў. Падышоў да магілы і паклаў кветкі побач з хлебам…

# ПРА ГАЛІНКУ, ЯКАЯ СТУКАЕ Ў АКНО

## I.ГАНЬЧЫНА ГАЛІНКА

Мамы... Як ім хочацца бачыць нас шчаслівымі! А таму часта ўяўляюць нас вундэркіндамі, незвычайнымі дзецьмі.

Так, варта было мне што-небудзь прыстойнае намаляваць, як мама вырашыла: я — прыроджаны мастак. Схадзіла да дзядзькі Андрэя. І калі той ухваліў мае першыя спробы, недзе адшукала маленькі мальберце: малюй толькі!

Падчас, бывала, забуду пра гэты занятак, дык мама абавязкова напомніць:

— Алежак, а што ты нічога не малюеш?

Выпраўляючы на зімовыя канікулы да дзеда Макара, яна так і сказала:

— Я хачу, каб з сяла ты прывёз карціну.

Але, сустрэўшыся з вясковымі хлапчукамі і блізка сышоўшыся з імі, я весела бавіў свой час і пра мамін наказ успомніў толькі ў апошні дзень.

Ведаў, калі не выканаю яе просьбу, будзе засмучэнне, будуць папрокі. Таму трэбы было тэрмінова выбраць, што ж намаляваць.

Дзядзька Андрэй (а ён сапраўдны мастак) не раз навучаў:

— Алег, малюй толькі тое, што асабліва ўразіць. Калі абыякавы да прадмета, які пішаш, не чакай поспеху.

На дзедавым двары нічога незвычайнага не знайшоў. Падобнае маляваў яшчэ ў чацвёртым класе. А за-

Не спяшаючыся, ішоў вуліцай. І раптам... Ад нечаканасці янават спыніўся. Дрэва сваёй адзінай галінкай, што засталася знізу, стукала ў акно, быццам прасілася ў хату, а можа, з кім размаўляла. Я збегаў дадому зараз я — сямікласнік.

мальбертам, алоўкам і фарбамі, пералез праз агароджу ў палісаднік і прыняўся маляваць.

Неўзабаве на лісце былі і галінка, і акно. А карціна мне зусім не падабалася. Усё было на месцы, толькі не такое, як я хацеў. Нібыта нежывое.

Памяняў новы ліст. Атрымалася тое ж самае. «У чым прычына?» — задумаўся я.

У гэты час за плячамі пачуў радасны шэпт:

— Як прыгожа!

Ад нечаканасці я прыкрыў ліст рукою і сказаў строга:

— Гэта несумленна.

— Што несумленна? — весела запыталася дзяўчынка. Яна была крыху ніжэйшая за мяне. У белым кажушку, белай шапачцы. Зусім як Снягурка. Смяялася звонка, залівіста. — Што ж

несумленна?

— Несумленна падглядваць, калі іншыя малююць.

— А ты хто — мастак?

— Мастак, — салідна пацвердзіў я.

— Яшчэ вучань — і мастак, — весела сказала дзяўчынка.

Я зразумеў, што занадта перахапіў, і паспрабаваў крыху апраўдацца:

— Канечне, пакуль не мастак. Але буду. Так мама кажа. Так дзядзька Андрэй гаворыць. Так настаўнікі думаюць.

— Мая мама таксама лічыць, што я буду артысткай. А, праўда, прыемна. Ты выходзіш на сцэну, а вядучы аб'яўляе: «Выступае Ганна Валошка». Толькі я буду аграномам. Гэта я ведаю добра.

— Не, ты не думай, што хлушу, — нарэшце загаварыў я. — Дзядзька Андрэй разбіраецца. Ён — мастак. Яго карціны былі на выстаўках.

— Гэтую галінку ў нашай сям'і называюць Ганьчынай. Значыць, маёй, — нечакана прызналася дзяўчынка.

— Чаму тваёй?

— Ясень пасадзіў мой тата. Калі ён быў яшчэ такім, як я. Дрэва вырасла, і я памятаю яго высокім, што ажно кранае воблакі.

Некаторыя гавораць, што дрэвы нежывыя. Няпраўда. Ясень вельмы добра адчувае мой настрой. Не паспею я прачнуцца, а ясень — тук-тук! «Добры дзень!» Я падхопліваюся з пасцелі: «Добры дзень! Добры дзень!» Разгуляецца вецер — і ясень рукою пастукае ў акно, быццам спытае: «Як жывеш, Ганька?» І я спяшаюся запэўніць: «Добра жыву». Прыйду дадому невясёлая, а ён пастукае і, быццам сябар, падбадзёрыць.

Дрэва разраслося так, што сонца ў хату не заглядвала. Тата цярпеў, цярпеў і нарэшце вырашыў абсекчы ніжнія галіны. Я ўпрасіла, каб хоць адну пакінуў. З таго часу яе і завуць маёй

... Дзяўчынка на адно імгненне ўзняла вочы. У іх былі цеплыня і радасць, як пры сустрэчы з любімым чалавекам. Ад задавальнення яна нават крыху прыадкрыла рот, быццам размаўляла з дрэвам.

Выглянула сонца, і снег на галінцы зазіхацеў, заіскрыўся.

Я раптам зразумеў: мне якраз не хапала гэтай жывой размовы. І пачаў алоўкам хутка накідваць на паперы твар дзяўчынкі. Яны была побач і неўзабаве пазнала сябе:

— Ой, падобна!

— Не перашкаджай, а то праганю.

Ганька сцішылася.

Неўзабаве я сабраў свае рэчы і пайшоў дадому. Я ведаў: цяпер карціну магу закончыць.

А ноччу мне прысніўся сон. Быццам я зайшоў ў Ганьчын дом. І вось мы з ёю разглядаем маю карціну. А ясень стукаецца ў акно і пытаеца: «Як жывеце?» Мы з радасцю адказваем: «Добра жывём».

Прачнуўся і не магу дадумацца: ява гэта ці сон? У хаце паўзмрок. Значыць, сапраўды прыснілася. І трэба было, каб запамятаваў. Гэта таму, відаць, што вельмі ўжо сон падобны на сапраўднасць.

Перад абедам дзед прыехаў на санках. Гняды конь нецярпліва патупаў нагамі.

Бабуля, добрая бабуля доўга ўкутвала мяне. Хоць не вельмі прыемна, але цярпеў: ведаў усё роўна не пераканаеш. Дзед паглядаў і весела пасмейваўся:

— Ты што, яго на поўнач выпраўляеш? Ён жа — салдат!

Але бабуля і слухаць не хацела:

— Алежак не пешшу пойдзе, а на санках паедзе. Мароз адразу за ногі і схопіць.

Я не ўмешваюся ў іх вясёлую спрэчку. Мяне непакоіць іншае: «Чаму сёння я не ўбачыў Ганьку? Дзе яна?» Я знарок некалькі разоў ля акон прайшоўся. У хату, праўда, не хапіла смеласці зайсці. А яе так і не сустрэў.

І вось гняды трушком бяжыць па добра ўтаптанай дарозе. Парыпваюць палазы. Дзед Макар пакрыквае на каня: хоча, каб я ў час дабраўся на чыгуначную станцыю.

І раптам... сустрэча: Ганька. Пакуль дзед спыніў гнядога, паміж намі ўжо было больш чым сто метраў.

Дзяўчынка таксама пазнала мяне і чакала, патоп— ваючы сваімі белымі валёнкамі. І цяпер яна была так падобна на Снягурку.

— Куды ты хадзіла?

— Да мамы. Яна ў бальніцы. Прыйду да яе — і ёй весялей. Любіць, калі я расказваю, як мы з татам упраўляемся. Хутка ўжо выпішуць.

## 2. ПЕРШАЯ ТАЙНА

Я на хвілінку ўявіў, што Ганька вось гэтак штодзень ходзіць у бальніцу, каб маме адной не было сумна. Разумееце: мяцеліца, а яна ўсё роўна ідзе. І чамусьці мне стала радасна за яе.

— А карціну я намаляваў, — пасля маўчання паведаміў я. — Хочаш — пакажу?

Не чакаючы адказу, я бег ужо да санак.

— Ой, як прыгожа! Як у сапраўднага мастака! — не адрываючыся ад намаляванага, гаварыла Ганька, і ў голасе — добрая зайздрасць. А мне — прыемна.

— Хочаш, я табе аддам карціну?

— Як гэта аддасі?

— Падарую.

Бачу: не супраць атрымаць такі падарунак, але сказаць не рашаецца.

— Бяры, бяры! — амаль сілком заставіў узяць Ганьку.

Дзяўчынка дзякуе. І зноў мы стаім і маўчым. Я разумею: трэба ісці, мяне чакае дзед Макар. І не магу зрабіць гэтага.

— Ведаеш, я да дзеда... ну, сюды на летніх канікулах прыеду, — нарэшце гавару Ганьцы. — Не, нават на вясновых. Абавязкова прыеду.

— Добра, прыязджай...

Дзяўчынка даўно ўжо знікла за паваротkай. Трушком бяжыць гняды. На яго пакрыквае дзед Макар. Падганяе, каб я не спазніўся на цягнік. А я думаю пра Ганьку. Думаю, што ў мяне з'явіўся новы, добры таварыш.

А дома мама спытала:

— Алежык, а дзе твая карціна?

— Мама, я сёння напішу.

Сапраўды, каб намаляваць галінку і побач акно, мне не спатрэбілася многа часу. Неўзабаве я паказваў карціну маме.

— Нічога, нават добра, — ацаніла мама.

Падышоў, паглядзеў і меньшы брат Дзіма.

— А дзе птушачка? — запытаўся ён.

— Птушачка паляцела, — адказала за мяне мама. Дзіма прывык, што на маіх малюнках абавязкова бываюць звяры, птушкі. Але сёння мне чамусьці здаецца, што меншы заўважыў: чагосьці на карціне не хапае. Праўдзей кажучы, кагосьці. Толькі мне не хочацца, каб усе ведалі пра Ганьку. Няхай гэта будзе мая тайна! Першая тайна!

## НЯЛЁГКА БЫЦЬ ГЕРОЕМ!..

Ужо не адзін год Карней Пятровіч выношваў задумку — напісаць карціну пра апошні подзвіг Сені Галаванчука, былога сувязнога партызанскага атрада імя Фрунзе. Сеня загінуў у чатырнаццаць гадоў. Загінуў з песняй «Арляня» на вуснах.

Мастаку хацелася зразумець, як гартаваўся характар героя. Карней Пятровіч сустракаўся з людзьмі, якія добра ведалі юнага змагара. Чуў ён і расказ маці Настассі Мацвееўны. Запомніў адзін эпізод. Неяк Сеня паспрачаўся з хлапчукамі і залез на высозную суседскую клуню, да буслянкі. «А страха была старая. — успаміналa Настасся Мацвееўна. — Сеня мог праваліцца. Глянула — сэрца зайшлося! Потым пачала дакараць сына. Той адказаў: «Я слова даў хлопцам, што далезу да буслянкі!»

Карней Пятровіч абышоў гарадскія школы. Аднак хлапчукі, якіх прапаноўвалі яму настаўнікі не падыходзілі мастаку: яны былі зусім непадобныя на таго Сеню Галаванчука.

Аднаму хлопчыку вельмі хацелася пазіраваць мастаку. Ён доўга расказваў, які акуртны, як старана выкопвае даручэнні, прынёс дзённік, дзе былі выдатныя адзнакі.

Карней Пятровіч ведаў, што Сеня Галаванчук ніколі не быў выдатнікам, не быў акурацістам. І ён спыніў хлопчыка адным пытаннем:

— Скажы, ты палез бы на страху, ведаючы, што яна гнілая і ў любую хвіліну можна праваліцца?

— Навошта?

— А калі б ты даў сябрам слова, што далезеш да буслянкі?

— Хіба дурны я даваць слова, калі страха гнілая! — адказаў на гэта хлопчык.

— А Сеня, бачыш, палез...

Карней Пятровіч пачаў непакоіцца, што не знойдзе натуршчыка, як раптам сутыкнуўся з Валерам Адзінцом. Ён жыў у адным пад’ездзе з мастаком і не мог пахваліцца ні выдатнымі адзнакамі, ні прыкладнымі паводзінамі. Але па тым, як нёсся па прыступках, Карнею Пятровічу ён здаўся падобным на Сеню Галаванчука.

Адчуванне блізкасці гэтых двух хлопчыкаў не прайшло ні заўтра, ні на трэці дзень. Нарэшце Карней Пятровіч не вытрымаў, запыніў Валеру:

— Ты павінен дапамагчы мне напісаць адну карціну!

Ён расказаў усё, што ведаў пра Сеню Галаванчука.

Папрасіў Валеру пазіраваць.

Хлопчык уважліва слухаў мастака, а калі той закончыў, адказаў:

— Не падыйду! Хіба я выдатнік?

Тады Карней Пятровіч задаў пытанне:

— Змог бы ты далезці да буслянкі па саламянай страсе?

— Калі трэба даказаць, што не баязлівец, змог бы! — упэўнена адказаў Валера.

— Вось-вось! А некаторыя не могуць...

Хлопчык прамаўчаў, нават не ўзрадаваўся.

— Дык я і прашу цябе, Валера, памажы мне.

Яшчэ ніхто ніколі не прасіў яго так, і хлопчык згадзіўся. Аднак не ведаў, як гэта цяжка пазіраваць мастаку. Апрануты ў падраную сялянскую світку, Валера павінен быў цэлымі гадзінамі, знерухомеўшы, стаяць у адной паставе.

Але і пастава яго, і позірк вачэй чамусьці не падабаліся Карнею Пятровічу.

— Уяві: фашысты білі цябе, катавалі, патрабавалі прызнання, але ты нічога не сказаў. І вось праз некалькі хвілін яны цябе расстраляюць. А ты павінен паказаць ворагу, што не баішся смерці, і пачынаеш спяваць песню:

Орленок, орленок,
взлети выше солнца
И степи с высот огляди...

А цяпер стань так, як стаяў Сеня Галаванчук, спяваючы песню перад дулам аўтамата.

Валера выставіў наперад левую нагу, прыняў рашучы выгляд, але гэта не спадабалася Карнею Пятровічу.

— Вочы, вочы цябе падводзяць! Не хапае ў іх смеласці. Забудзься, што ты Валера Адзінец. Ты — Сеня Галаванчук. Паўтары: «Я — Сеня Галаванчук!»

Хоць і паўтараў Валера гэта не раз і не два, але «ўжыцца», як казаў Карней Пятровіч, у вобраз так і не змог.

— Нічога, будзе ў другі раз, — суцяшаў яго мастак.

Калі нарэшце закончыўся сеанс, Валера адчуў сябе, як пасля цяжкай працы.

На развітанне Карней Пятровіч паляпаў яго па плячы, усміхнуўся:

— Што, нялёгка быць героем?!

Назаўтра зноў пачыналася тое ж самае.

Сеня Галаванчук стаў блізкім для Валеры. Ён нават сніўся яму ўночы. Вось яны разам адбіваюць атаку фашыстаў. Вось ён стараецца выратаваць Сеню, які трапіў у засаду... Валеру было дзіўна, як ён раней нічога не ведаў пра свайго аднагодка Сеню Галаванчука.

Аднаго разу, калі Валера пазіраваў, Карней Пятровіч нечакана радасна ўсклікнуў:

— Такі, такі Сеня Галаванчук!

Рукі Карнея Пятровіча на гэты раз рухаліся вельмі хутка. Потым мастак сказаў:

— Дзякуй табе, даражэнькі! Карціна «Непераможная песня» абавязкова атрымаецца!

Валера не адчуў палёгкі. Наадварот, ён зразумеў, што ўспамінаюць пра юнага героя будзе ўвесь час.

— Вось каб я раней ведаў пра Сеню Галаванчука, — нечакана сказаў Валера, — дык, напэўна, выцягнуў бы нямецкую мову.

— А так што?

— А так работу на лета атрымаў...

— Не ўсё гладка і ў Сені выходзіла, але ён прывучаў сябе перамагаць цяжкасці. Таму і стаў героем, — сказаў Карней Пятровіч. — Мне хочацца верыць, што нямецкую мову ты адолееш.

— Абавязкова адолею! — паабяцаў Валера.

## ЦВЁРДЫ АРЭШАК

### Аповесць

***Аўтар: АНТОН РАМАНАВІЧ НЕПАКОІЦЦА***

Дырэктар музычнай школы Антон Раманавіч любіў марозныя студзеньскія ранкі. Калі пад нагамі парыпвае снег, а на ўсходзе «гарыць» ружовае вогнішча: вось-вось на небе паявіцца залацістае сонца, і ўсё навокал заблішчыць-заіскрыцца тысячамі дыяментаў. Тады стане святочна-радасна. Як у цырку, як у казцы.

Настрой у Антона Раманавіча быў прыўзняты. Не сапсавалі яго і вучні. Нават Лёня Камышын, які ніколі не вылучаўся стараннем, сёння прайграў гаму рэ мажор выдатна.

Радасны настрой быў аж да абеду, пакуль у кабінет не зайшла выкладчыца па класе гітары Святлана Уладзіміравна. За два гады, што працуе Святлана Уладзіміраўна ў музычнай школе, Антон Раманавіч ніколі не бачыў яе такой разгублена-спалоханай.

— Што з вамі, Святлана Уладзіміраўна? Сядайце, калі ласка.

Настаўніца прысела на край крэсла.

— А можа, не трэба гаварыць?

Што ён мог адказаць ёй?

— Не, трэба мне параіцца з вамі. І як з дырэктарам, і як з бацькам, — нарэшце вырашыла Святлана Уладзіміраўна.

— Што… з Русланам?! — дырэктар падхапіўся з месца.

— Нічога страшнага: ваш Руслан вырашыў вывучыць паланез Агінскага.

— І толькі ўсяго?! — Антон Раманавіч зноў сеў ў крэсла: ён чакаў нешта больш страшнае.

— Разумееце, ён вырашыў самастойна навучыцца іграць паланез. Гэта апроч праграмы.

Дырэктар разумеў Святлану Уладзіміраўну. Не раз прыходзіла яна скардзіцца, што Руслан займаецца музыкай як з-пад кія. Ён ушчуваў сына, ды ўсё марна. І раптам сам, не па праграме…

«Сапраўды нешта здарылася», — захваляваўся Антон Раманавіч, але настаўніцу пастараўся супакоіць:

— Нічога незвычайнага, Святлана Уладзіміраўна, я не бачу: хлопчык расце, у яго, зразумела, мяняюцца погляды на ўсё, у тым ліку і на музыку.

— Дазвольце, Антон Раманавіч, не згадзіцца з вамі. Я не думаю, што Руслан так адразу мог змяніцца!

Дырэктар прыблізна думаў гэтак жа. Аднак нічога не адказаў ёй.

— Я апынулася ў цяжкім становішчы, — зноў загаварыла Святлана Уладзіміраўна. — Руслан просіць ноты паланеза. А для

гітары іх няма ў мяне.

— Знойдзем, Святлана Уладзіміраўна. Мой аднакурснік працуе ў музычным вучылішчы. Думаю, выручыць.

Абнадзееная, Святлана Уладзіміраўна выйшла, а дырэктар некалькі хвілін сядзеў нерухома. Не праходзіла дакучлівая думка: «Што здарылася з Русланам?..»

Антон Раманавіч пазваніў свайму быламу аднакурсніку Сцяпану Кучуку. Той пажурыў яго за тое, што, бываючы ў Брэсце, не заходзіць у госці. Антон Раманавіч спасылаўся на занятасць. Потым яны паўспаміналі агульных занёмых, і, нарэшце, ён сказаў пра сваю патрэбу.

— Знайду, — паабяцаў Кучук. — Але дам толькі пры адной умове: калі прыедзеш да мяне ў госці. З жонкаю. А то што атрымліваецца? Як вучыліся ў інстытуце, сябравалі, а раз’ехаліся, дык не сустракаемся. Я пачаў забываць, як ты выглядаеш, таварыш дырэктар, а жонку зусім не бачыў.

Антон Раманавіч паабяцаў прыехаць.

Вярнуўся ён з работы раней за сына. Руслан прыйшоў, як здалося Антону Раманавічу, прывычна-проста: не бразнуўшы дзвярамі, не закінуўшы ў куток партфель. Так прывучыла маці.

Ён, відаць, доўга разглядаў сына, бо той запытаўся:

— Ты чаго, тата?

— Да нічога, Руслан, нічога... — паспешліва адказаў Антон Раманавіч, пакідаючы гаворку на больш позні час.

Пасля вячэры, застаўшыся адзін на адзін з сынам, Антон Раманавіч рашыўся пагаварыць з ім.

— Мне Святлана Уладзіміраўна сказала, што хочаш вывучыць паланез Агінскага.

— Хачу.

— А для чаго?

— Трэба.

— Што, музыка падабаецца?

— Падабаецца.

— Толькі да гэтай музыкі трэба ставіцца сур’ёзна, — папярэдзіў Антон Раманавіч сына. У паланез кампазітар Агінскі ўклаў увесь боль сваёй душы. Ведаеш, як ён называецца? «Развітанне з радзімай».

— Ведаю.

Тое, што Руслан адказваў на ўсе бацькавы патынні адназначна, увесь час нібыта згаджаўся, падказала, што ў сына ёсць тайна і ён баіцца прагаварыцца.

***Руслан Тарасюк: ШТО Я ЎТАІЎ АД ТАТЫ***

Учора ў мяне была сур’ёзная размова з татам. Ён усё выпы-

тваў, чаму я задумаў навучыцца іграць паланез Агінскага, быццам я — малеча і не маю ніякіх таямніц ад бацькоў, ад настаўнікаў.

Не, мы выраслі ўжо, і некаторыя задачы, якія ставіць жыццё перад намі, павінны рашаць самі, без чыёй-небудзь дапамогі. Як і на гэты раз...

Два гады назад у нашым мікрараёне паявіўся Санька Кульжык. Адчуваю, ён ненавідзіць мяне. Памятаю нашу першую сустрэчу ў школе. Я ў той дзень забыўся дома акуляры і, слепавата прыжмурыўшыся, ішоў па асветленым сонцам калідоры, калі раптам пачуў гучны вокрык:

— Прэч з дарогі, казяўка!

Я ўзняў вочы і аслупянеў: перада мною стаяў дзяцюк, на цэлую галаву вышэйшы за мяне, шырокі ў плячах. Хаця, як потым высветлілася, ён вучыўся вышэй толькі на адзін клас.

Я саступіў з дарогі і тым самым прызнаў яго сілу. Але і гэта, мабыць, не здаволіла яго. Не было ніводнага выпадку, каб Санька не штурхнуў мяне. Чаму я такі ненавісны яму?

... Дваццаць дзевятага студзеня я з гітараю вяртаўся з музычнай школы. На пляцоўцы хлапчукі гулялі ў хакей. Лепш сказаць, у іх нешта не ладзілася з гульнёй. Яны стаялі гуртам і крычалі: кожны стараўся даказаць сваё.

І тут ад групы аддзяліўся Санька Кульжык.

Я змераў вачамі адлегласць да дома і да Санькі і зразумеў, што не ўцячы. Адразу адчуў сябе так, як, пэўна, адчувае заяц, калі яго даганяе ліса.

Хлапчукі спынілі спрэчку, глядзелі на нас, чакалі ўцехі.

— Чаго ты кожны дзень швэндаешся з гітараю? — запытаў Санька такім тонам, быццам ён меў права забараніць.

Я залапатаў не сваім голасам:

— Са школы іду...

— Бачу, што не з магазіна! — засмяяўся Санька. — Невядома толькі, чаму цябе ў той школе навучылі!

Я маўчаў.

— Хлопцы, бачыце, яго нічому ў школе не навучылі! — звярнуўся Санька да хлапчукоў, якія назіралі за намі. — А гітару цягае, ха-ха! Каб мы зайздросцілі яму. Моцарта з сябе строіць. І акуляры надзеў, мабыць, адразу ў акадэмікі меціць! — і Санька з сілаю сарваў акуляры.

Хлапчукі падвінцілі, акружылі мяне. Санька перадаў мае акуляры Валіку Кавальчуку.

— А можа, ён умее іграць? — засумняваўся Пецька Івашын.

— Калі ўмее, няхай сыграе! — сказаў Санька. — Ну, сыграй, а мы паслухаем.

А ў мяне ад страху быццам рукі адняліся ды ўсё чыста

забылася.

— Вось бачыце, а гітару цягае! — скаліў зубы Санька.

Сябры зразумелі, што Санька зараз можа стукнуць мяне. Я таксама не сумняваўся ў гэтым і схаваў галаву ў каўнер паліто. І ў той момант, калі я чакаў занесенага кулака, пачуўся голас Паўліка Бязважкі, поўны спагады да мяне:

— Ну, сыграй жа, сыграй, Руслан!

Гэты нязвычай-добры голас у групе, дзе я не чакаў падтрымкі, абудзіў мяне. Паўлік быццам падаў мне руку ў цяжкую хвіліну. Я ўспомніў новую гаму, якая мне падабалася. Відаць страх надаў мне сілу, і я сыграў няблага, бо ўсе маўчалі.

— А ведаеце, добра! — ацаніў Пецька Івашын.

Я ўбачыў, што позіркі хлопчыкаў пацяплелі. Валік вярнуў мне акуляры.

Я зразумеў, што зараз Санька не адважыцца мяне біць.

Санька таксама зразумеў, што на гэты раз прайграў, але адразу здацца не захацеў.

— Сыграў ты сапраўды добра, — згадзіўся ён. — Але я паверу ў твой талент тады, як сыграеш паланез Агінскага. Ты чуў пра такі? — насмешліва запытаўся Санька.

— Чуў.

— Вось і сыграй.

— Не магу! — прызнаўся.

— Вось бачыце! — Санька пераможна паглядзеў на сяброў. — Якую-небудзь драбязу ён іграе, а калі што сур'ёзнае, дык не можа.

— А я вывучу!

— Цікава, колькі чакаць таго свята? Год? А можа, два?

— Чаму год? За месяц вывучу.

— Добра, — згадзіўся Санька. — Значыць, калі будзем слухаць паланез?

— Дваццаць дзевятага.

— Згодзен, сказаў ён, ды тут жа зрабіў міну коміка. — Толькі дваццаць дзявятага лютага будзе ў наступным годзе. Ха-ха! Хітрун!

— Тады дваццаць восьмага.

— Хлопцы, усе чулі, што сказаў гэты рыжы? Глядзі мне! Інакш адлупцую! — прыгразіў Санька.

Хіба мог я пра ўсё гэта расказаць тату?

## ***Сонька Кульжык: ПАЛАНЕЗ АГІНСКАГА, АБО ПАКАРАННЕ ЧАСОВА АДКЛАДВАЕЦЦА***

У мяне даўно, яшчэ ў шэсць гадоў, зрадзілася мара. Нечакана-негадана. Маме далі білет на канцэрт піяністаў, якія прыехалі да нас з Мінска. Мама не магла пакінуць мяне аднаго вечарам дома (тата тады ўжо з намі не жыў) і ўзяла на канцэрт.

Не скажу, што канцэрт спадабаўся. Я проста назіраў, як дзядзька ў чорным сурдуце — піяніст — выходзіў на сцэну, кланяўся гледачам. Потым сядаў за піяніна, рэзка ўзмахваў рукамі і пачынаў іграць.

Як праз сон даляталі да мяне гукі музыкі. Мне было нецікава, і я стараўся назіраць за рукамі піяніста. Яны адскоквалі, як ад спружыны, потым падалі ўніз, быццам да клавішаў быў прымацаваны магніт, які прыцягваў пальцы. Мне зрабілася весялей.

Аб'явілі новы нумар. Уся зала дружна запляскала.

На гэты раз піяніст не біў клавішы з сілай, а, наадварот, пачаў павольі. Пачулася шчымліва-жалобная мелодыя, і я адчуў, як па спіне забегалі халодныя мурашкі. Жалоба нарастала з кожнай хвілінай.

Гэта быў апошні нумар. Піяніст доўга раскланьваўся, а людзі не шкадавалі далоняў. На сцэну выбегла дзяўчына з букетам кветак, за ёю яшчэ...

Людзі рушылі да выхада, а я сядзеў на месцы. У вушах усё яшчэ гучала ўрачыста-сумная мелодыя. Сядзеў аж да таго часу, пакуль мама не кранула мяне за плячо:

— Саня, ты што, заснуў?

Я ўстаў з крэсла і спытаўся ў мамы:

— Што гэта — музыка такая?

— Гэта паланез Агінскага.

— Чаму ён такі сумны?

— Такім яго стварыў кампазітар, — як магла, растлумачыла мама.

Пазней, калі я падрос, прачытаў, што Міхалу Агінскаму, вядомаму кампазітару, улады забаранілі жыць на радзіме. Пакідаючы Беларусь, ён стварыў паланез, даў яму назву «Развітанне з радзімай». Тады я зразумеў, чаму сталькі суму ў гэтым творы.

Некалькі дзён я хадзіў пад уражаннем музыкі. Вось у мяне і нарадзілася мара хутчэй, вырасці і навучыцца іграць паланез.

Музыка не забылася. У тое лета, калі я павінен быў ісці ў трэці клас, мама прывяла мяне ў музычную школу. На экзамены.

З-за ababітых дэрмацінам дзвярэй даносілася прыглушаная музыка. Здавалася, што трапіў у такое месца, дзе гаварыць можна шэптам, а рухацца зусім нельга. Бо кожны крок, як у музеі, аддаваўся рэхам...

Я ніколі не сумняваўся, што паступлю.

Пакуль мама скідала ў гардэробе плашч, я чакаў яе. Потым мы падняліся на другі наверх. Тут стаяла некалькі жанчын з дзецьмі.

— Гэты паступіць! — сказала першая, паказаўшы вачамі на невысокага вяснушкаватага хлапчука ў акулярах.

— Паступіць! — згадзілася суседка. — У яго бацька дырэктар школы.

Хлапчук не спадабаўся мне. «Рыжы» — адразу прыляпіў я да яго мянушку.

Калі з класа выйшла светлавалосая дзяўчына і назвала маё прозвішча, я зразумеў, што мяне клічуць на экзамен. Але ногі быццам прыраслі да зямлі. Мама падштурхнула ў плечы:

— Ідзі, цябе клічуць!

Я пераступіў парог. За доўгім сталом сядзелі пяць экзаменатараў. Пасярэдзіне — вяснушкаваты мужчына ў акулярах, вельмі падобны на таго хлапчука, якога я бачыў у калідоры. Я здагадаўся, што гэта і ёсць дырэктар.

— Калі ласка, праспявай якую-небудзь песеньку! — папрасіла жанчына, што сядзела справа ад яго.

Вырашыў спяваць песню «Крэйсер «Аўрора», якую, мне думалася, спяваю найлепш. Ці то ад хвалявання, ці па іншай прычыне, але зацягнуў я так высока, што не хапіла сілы даспяваць.

Добра, што дырэктар запыніў:

— Занадта высока, малады чалавек. Пачні яшчэ раз.

Чым больш я спяваў, тым больш моршчыліся твары ў членаў камісіі. Асабліва ў той дзяўчыны, што выклікала мяне на экзамен. Нарэшце дырэктар сказаў:

— Хопіць!

Я адчуў, што мне млосна. Але на гэтым мае пакуты не скончыліся. Высокая, як сцяблінка, дзяўчына-экзаменатар узяла ў рукі камертон, стукала ім па краі стала, а я павінен быў цягнуць ноту «ля». Тады яна села за піяніна і пачала іграць. Мне трэба было адстукаць далонямі яе найгрыш. Нарэшце мяне адпусцілі.

— Ну, як? — запыталася маці.

Я пацiснуў плячамі: у мяне не было ніякай упэўненасці.

Доўгае чаканне зусім знясіліла мяне. Калі дзяцей з бацькамі паклікалі ў клас, дырэктар падняўся з месца і стаў падводзіць вынікі экзамену. Дайшоў да майго прозвішча і раптам сказаў:

— А цябе, Саша Кульжык, мы не можам прыняць!

Гэта было як навальніца сярод зімы.

— Чаму?

— Ты не зможаш вучыцца ў нашай школе, — растлумачыў дырэктар. — У цябе няма музычнага слыху.

А жанчына, якая сядзела справа ад дырэктара, дадала:

— Лепш спортам займайся!

Быццам гэта было адно і тое ж.

І толькі па-сапраўднаму хвалявала мая няўдача, як здалося мне, тую светлавалосую дзяўчыну, што паклікала мяне на экзамен.

Я выйшаў з класа ў калідор, і мяне, здаецца, праглынула

нясцерпна-балючая цішыня музычнай школы. Каб адагнаць яе, я галёкнуў «ого-го!» і, моцна тупаючы, як конь, панёсся да дзвярэй. Мама ажно заплюшчыла вочы. Дома я чакаў лупцоўкі, але чамусьці мама нават не ўспомніла пра маю выхадку. Пэўна, для яе быў таксама непрыемны мой правал на экзамене.

А я вырашыў таго “Рыжага”, дырэктаравага сына, злавіць і адлупцаваць. Чаму адлупцаваць? Я сам сабе не мог адказаць на гэта пытанне. Проста мне здавалася, што ён заняў маё месца ў школе. Але ж не, ён паступаў па класе гітары, а я — па піяніна. Відаць, проста ён быў шчаслiўчык.

І я пачаў падпільноўваць Руслана Тарасюка (а гэта быў імен-на ён). У той дзень мне здавалася, што можна будзе разлічыцца з «Рыжым». Я ішоў услед за ім. Неўзабаве Руслан павінен быў пераходзіць пустэчу. Там мы і сустрэнемся.

Подбегам я туды дабраўся першым. А вось і Руслан. Быў ён не адзін. Я пазнаў дзяўчыну, якая запрашала мяне заходзіць на экзамен. Была яна ў светлым паліто і ў васільковай шапачцы. Яны ішлі і пра нешта размаўлялі. «Канечне, пра музыку!» — падумаў я.

Прыгадаў яе добрыя, засмучаныя вочы на экзамене і вырашыў больш не падпільноўваць Руслана. Мой боль мінуўся: захоплены сваімі забавамі, я амаль забыўся пра няўдачу на экзамене...

Нечакана мы атрымалі кватэры ў новым мікрараёне. Цяпер мы вучыліся з Русланам у адной школе і, вядома, сустрэліся. На гэты раз ён быў без акуляраў і падслепавата, як сава, паглядаў на святло. Ён ледзь не тыцнуўся аб мяне, як сляпое кацяня.

Стары боль кальнуў недзе ўсярэдзіне, прыпомнілася першая сустрэча.

Руслан саступіў мне дарогу. Але цяпер я добра ведаў, што прыгавор, вынесены некалі, будзе прыведзены ў выкананне.

Руслан, відаць, не здагадваўся, што рыхтаваў я для яго, бо амаль штодзень швэндаўся паўз вокны з гітараю. Гэта ўсё больш і больш раздражняла мяне. Я чакаў зручнага моманту, каб расквітацца з ненавісным «Рыжым».

Дваццаць дзевятага студзеня мы выйшлі гуляць у хакей. У нашай камандзе адсутнічаў Міхась Ганчук — наш лепшы нападаючы, які ўмее абвесці саперніка і закінуць шайбу. І сёння мы прайгравалі з лікам 8:2. Настрой знік. Хлопцы бегалі за шайбай злыя, гатовыя вось-вось бойку распачаць.

І тут я заўважыў Рыжага. Як заўсёды, ён быў з гітараю: мусіць, вяртаўся з музычнай школы. «Вось зараз я змагу расквітацца з ім! — мільгнула думка. — Ды і хлопцаў усцешу!»

У тым, што Руслан не ўмее іграць, я чамусьці не сумняваўся.

Усё, аднак, склалася не так проста, як хацелася мне. Руслан сыграў. І сыграў няблага. Гэта заўважылі хлопцы. Словам, камедыі

не атрымалася. Я прайграў. Каб не прызнаць сябе пераможаным, прапанаваў Рыжаму сыграць яшчэ паланез Агінскага. «Што-што, а паланез табе не пад сілу», — падумаў я. І не памыліўся...

Руслан аказаўся вялікім нахабнікам. Нечакана пры ўсіх ён заявіў, што навучыцца іграць паланез. І не абы-калі, а праз месяц. Яго самаўпэўненасць насмяшыла мяне. Толькі за адно гэта варта намыліць яму шыю, ды я сказаў сам сабе: «Пакаранне часова адкладваецца! Пачакаем яшчэ месяц!»

Гэты час праляцеў непрыкметна. Толькі на ўроку, запісваючы хатняе заданне ў дзённік, мой позірк раптам спыніўся на лічбе 28. Заўтра ж дваццаць восьмага лютага, — падумалася мне, — пара плаціць доўг!»

Я пазваніў Пецьку Івашыну і напомніў, што сёння дваццаць восьмае лютага і можна паслухаць паланез Агінскага ў выкананні Руслана. Але Пецька адмовіўся:

— Не магу, Саня, мама і тата на працы, мушу няньчыць Алёнку.

Тады я вырашыў пазваніць Валіку Кавальчуку. Яго я лічу сваім найлепшым сябрам. Валік, і праўда, згадзіўся адразу.

— Значыць, сустракаемся ля пад'езда! — сказаў я і пачаў апранацца.

Калі выйшаў, Валік ужо стаяў на ганку, тупаючы на месцы. Па твары было відаць, што ён нечым незадаволены.

Не спадзяваўся я, што Руслана давядзецца так доўга чакаць. Мінула амаль гадзіна, а ён усё не паяўляўся.

— Нешта Рыжы затрымліваецца, — сказаў я.

— Няма ў мяне больш часу, — раптам заявіў Валік. — Ды і прамёрз да касцей. — Ён сарваўся з месца, кінуў на хаду: — Будзе ісці — гукнеш!

«Вось табе і сябар!» — крыва ўсміхнуўся я, калі Валік схаваўся ў пад'ездзе.

І тут я ўбачыў Руслана. Ён падышоў да мяне, і я спытаўся:

— Руслан, ведаеш, якое сёння чысло?

— Дваццаць восьмае лютага, — не спалохаўся Рыжы.

— А паланез? Ты што, забыў пра наш дагавор?!

— Чаму, я не адмаўляюся! — У яго голасе не было ні кропелькі боязі.

Я зразумеў: ён вывучыў паланез.

З пад'езда выйшла дзевяцікласніца Жанка Карнеева. Мы яе звалі Высокая Жанка.

— Хочаш паслухаць паланез Агінскага? — спытаўся яў яе.

— А чаму не песні ў выкананні Карала Гота? — павяла брывом Жанка.

— На жаль, пласцінкі няма. А паланез можа выканаць

Руслан.

— Ён? — Высокая Жанка тыцнула пальцам хлопца ў грудзі.

— Кажа, што ўмее.

— Можна і паслухаць, — згадзілася Жака.

Мы зайшлі ў падвал. Руслан крышку настроіў гітару і зайграў. Відаць, добра вывучыў паланез, бо іграў, амаль не гледзячы на струны.

Канечне, я падрос, і Русланава ігра не ўразіла мяне гэтак, як тады, калі ў дзяцінстве слухаў піяніста. Але і хлопец іграў цікава. Гэта заўважыў не толькі я.

— Някепска! — пахваліла Высокая Жанка, зірнула на мяне з пагардай і пайшла з падвала. Я зразумеў, што для Высокай Жанкі я, сямікласнік, быў драбязою, да якой яна не магла адносіцца сур’ёзна. Адпусціў Руслана і паплёўся да сябе на чацвёрты паверх.

У тым, што я поўнасцю прайграў у барацьбе з Русланам, я не сумняваўся. Вось і хлопцы не прыйшлі. Нават Валік, і той адмовіўся! А можа, і лепш — не бачылі майго паражэння!

***Антон Раманавіч: ТАЙНА ЗАСТАЕЦЦА***

Час ідзе. Чым больш я назіраю за сынам, тым больш пераконваюся, што ў яго ёсць тайна, якой ён не спяшаецца падзяліцца са мною. Ёсць такое ў характары Руслана.

Памятаю, было яму гадоў пяць. Мы паехалі ў вёску Баравая да бабулі. Старэйшыя хлапчукі, з якімі гуляў Руслан, палезлі да цёткі Ганны ў сад і абтрэслі белы наліў. Хлапчукі далі яму вялікі яблык, узяўшы з яго слова, што нікому не скажа пра набег на цётчын сад.

Руслан прынёс яблык дамоў. У бабуліным садзе такіх не было, і я спытаўся ў сына, дзе ён узяў.

— Хлапчукі далі, — адказаў Руслан.

— Якія хлапчукі?

— Тыя, з кім гуляю.

— Дзе яны ўзялі?

І тут сын зразумеў, што прагаварыўся. Як я ні падступаўся, ён адмоўчваўся. Я пачаў пераконваць яго, што браць крадзенага нельга. Тады Руслан аднёс яблык хлопцам.

Цётка Ганна дазналася аднекуль, што Руслан ведае, хто быў у садзе. Аднойчы яна запыніла хлопчыка, прапаноўвала яму цукеркі, прасіла расказаць. Руслан цукерак не ўзяў, хаця любіў салодкае, і нічога не сказаў цётцы Ганне.

Нядаўна я прыгадаў яму гэты выпадак.

— Як я мог расказаць, — прамовіў ён, — калі паабяцаў хлопцам, што не скажу?!

Мяне не пакідае думка: сын захоўвае тайну, ён даў слова.

Руслан кожны дзень па некалькі гадзін не выпускае з рук

гітару. У адзін з вечароў папрасіў паслухаць яго.

Сыграў Руслан у асноўным чыста, толькі аднойчы крыху сфальшывіў. Мне здавалася, што зараз яму важна станоўчая ацэнка. І я пахваліў ігру, потым спытаўся:

— А навошта вывучаць табе музыку па-за праграмай?

— Трэба. Вельмі трэба, — сур'ёзна адказаў Руслан.

А ўчора новыя хваляванні. Калі мы абедалі, пачуўся залівісты званок. Адчынілі — стаіць на парозе суседка Ларыса Сямёнаўна. Выгляд у яе спалоханы. Загаварыла хутка-хутка:

— На пустэчы вашага Руслана хуліган збівае!

— Антон, бяжы хутчэй, ратуй сына! — усклікнула жонка.

Я таксама захваляваўся. Пакуль апранаўся, паспеў спытацца:

— А вам адкуль гэта вядома, Ларыса Сямёнаўна?

— Сама бачыла! — здаецца, пакрыўдзілася суседка. — Я там лямант узняла!

Не паспеў я далёка адысці ад дома, як заўважыў Руслана. Ён ледзь ногі валок. «Раз ідзе сваім ходам, значыць, жывы, — падумаў я. А ў астатнім разбяромся потым!» Непрыметна звярнуў са сцяжынкі за суседні дом.

У тым, што Руслан не заўважыў мяне, я не сумняваўся.

Дадому вярнуўся не адразу. Крыху прайшоўся па вуліцы. Ні на хвіліну не выходзіў з галавы Руслан. Але мне хацелася, каб ён крыху адумаўся, даўжэй пабыў адзін, не чуючы дакораў і ўшчуванняў…

Жонка сустрэла мяне пытаннем:

— Гэтак шукаў? Дома ўжо Руслан. Маўчыць. Гітара зламаная, штаны парваныя, пад вокам сіняк, — у роспачы прамовіла яна і пачала плакаць.

Я вымушаны быў ісці да сына, каб пагаварыць з ім. Як і чакаў, размовы не выйшла. Руслан даводзіў адно: паслізнуўся і ўпаў. Я ведаў, што гэта не так, але спрачацца з ім не хацеў.

— А тыя грошы, — заявіў сын, — што заплацілі за гітару, я зараблю сам, — паеду на лета да бабулі ў Баравое. Буду, як сельскія хлапчукі, хадзіць у поле. А пакуль папрашу гітару ў Святланы Уладзіміраўны.

Тайна засталася…

***Санька Кульжык: ЗЛАМАНАЯ ГІТАРА***

З самай раніцы мяне чакала непрыемнасць: на рагу вуліцы Зялёнай убачыў бацьку. Гады два я не сустракаў яго ў горадзе. За гэты час ён яшчэ больш апусціўся. Сіняе паліто ў брудных плямах, змятае, быццам яго жавала карова. Шапка на галаве злінялая, амаль згубіла свой колер.

Многія ведалі яго. Асуджальна ківалі галовамі: ды чаго ты,

Кандрат, дакаціўся!

Мне зрабілася нясцерпна балюча за бацьку. Я прыгадваю, як прыходзіў ён з работы п'яны, як гадзінамі сварыўся з маці. А потым недзе знік. Мне было прыкра і крыўдна: хлопцы хваліліся сваімі татамі, а ў мяне яго не было. Маці паўтарала адно і тое ж:

— Чым такога бацьку мець, лепш ніякага! — і ўздыхала.

Бацька то знікаў з горада — я доўга не бачыў яго, то зноў паяўляўся тут, хадзіў п'яны, не разбіраючы дарогі.

Цяпер ён таксама некуды спяшаўся і мяне не заўважыў.

Ад злосці я ледзь не плакаў. І тут на вочы мне трапіўся Руслан Тарасюк. «У яго тата не п'яніца! — зноў ускіпела ў сэрцы кроў. — Яго тата — дырэктар, і сам ён у музычнай школе займаецца. А ў мяне? А я?..»

Яшчэ нічога добра не ўцяміўшы, зрабіў крок насустрач Руслану, які, вядома, не чакаў такой сустрэчы. Позірк у мяне быў рашучы. Нават скрозь акуляры я заўважыў спалох ў Русланавых вачах.

Мы стаялі адзін насупраць аднаго.

— Ну! — грозна сказаў я, — доўга яшчэ будзеш насміхацца з мяне?!

— Я ніколі... Ніколі не насміхаўся... — дрыжачым голасам адказаў Рыжы.

— Ты знарок паказаў хлопцам, што ўмееш граць па гітары. На злосць мне!

— Ты ж сам папрасіў, — апраўдваўся Руслан.

Я выставіў новае абвінавачванне:

— Ты вывучыў паланез Агінскага за месяц, каб дапячы мне!

— Я сабе даў слова!

— Я таксама даў!

— Якое? — наіўна спытаўся Руслан.

— А вось!..

Ад майго кулака Рыжы кульнуўся у снег. Аднак з незвычайнай хуткасцю падхапіўся на ногі. Я чакаў, што ён уцячэ. Тады я дагнаў бы яго і адлупцаваў. Святкаваў бы поўную перамогу.

Але ён падхапіўся і падрыхтаваўся да ўдару, нават паспеў стукнуць мне ў сківіцу.

Звар'яцелы ад злосці, я пайшоў у наступленне. Але Руслан, малы і вяртлявы, умела ўхіляўся ад майго кулака. Нарэшце я схапіў яго за грудкі і кінуў на зямлю. У той момант, калі пачаў біць ляжачага, пачуўся вісклівы жаночы крык:

— Караул! Тут забіваюць! Міліцыя, хутчэй сюды!

На пустэчы мільганулі постаці ў форме.

Я сарваўся з месца. Па дарозе пад ногі трапіла Русланава гітара. Чамусьці яна вывалілася з футарала. У гарачцы я размах-

нуўся і стукнуў ёю на лёдзе. Пачуўся трэск. Толькі затым сігануў у бліжэйшыя кусты. Бег, пакуль хапіла сіл. Зняможаны паваліўся на снег, аддыхаўся…

Цэлы дзень не паяўляўся дома. Думаў, што мяне ўжо чакае міліцыя. Калі сцямнела, прабраўся дамоў. Стаяў ля дзвярэй, усё не адважваўся пазваніць.

Адчыніла ўсхваляваная мама:

— Чаму так позна?

— Гуляў.

І раптам адчуў, што галодны, як воўк.

— Паесці ёсць што?

— Бульбу варыла, ды яна, пэўна, астыла, — заспяшалася мама. — Падсмажу зараз.

— Не трэба, я і так з’ем.

Пайшоў на кухню. Бульба яшчэ не зусім астыла. Еў з апетытам, запіваючы малаком.

Усю ноч мне сніліся жахі. Я крычаў у сне, плакаў. Калі прачнуўся. У пакоі было яшчэ цёмна. Каля мяне сядзела мама.

— Саня, што з табою? Ты захварэў?..

Я зразумеў, што і яна плакала. Мне зрабілася шкада мамы. Колькі яна папакутавала з татам! Як і са мною!..

— Не, прыснілася нешта страшнае, — ціха прамовіў я. — Ты лажыся. Я не буду больш…

Я меў на ўвазе не толькі тое, што не буду крычаць праз сон. Не, прыйшла пара стала ставіцца да сваіх учынкаў. Інакш можна скаціцца ў бездань. Тады цяжка будзе памагчы.

Мама пайшла на свой ложак, а я так і не змог заснуць да раніцы…

***Руслан Тарасюк: ДЗВЕ ПЕРАМОГІ***

Гэту размову з татам я запомніў на ўсё жыццё. Гадоў пяць назад я, першакласнік, у каторы раз пасля бойкі прыбег да таты скардзіцца, размазваючы па твары слёзы.

Тата моўчкі ўзяў мяне за плячо і падвёў да люстра. Я ўбачыў сябе, бруднага, з раскудлачанымі валасамі. Адчуў самым няшчасным на свеце і зароў яшчэ мацней.

Тады тата адштурхнуў мяне і з пагардаю прамовіў:

— Не мужчына ты, а размазня! Размазню і баязліўца, які не можа пастаяць за сябе, б’юць і будуць біць!

Скажу шчыра: часта мне пападала. Відаць, крыўдзіцелі адчувалі, што здачы не будзе. Мне сорамна было бегчы скардзіцца бацьку. Я пачаў сам адбівацца…

На пустэчы Санька Кульжык не атрымаў лёгкай перамогі. Я аказаўся больш паваротлівым, чым ён чакаў. Праўда, пасля пер-

шага ўдару ў мяне было адзінае жаданне — уцячы. Я, аднак, разумеў, што даўганогі Санька дагоніць мяне. Тады мне будзе горш. І я прыняў бой.

Калі падышлі міліцыянеры, Санька сігануў ад іх у кусты з хуткасцю зайца. Яны дапамаглі мне падняцца з зямлі. Адзін з іх, вышэйшы ростам, спытаў мяне, ці ведаю я, хто біў мяне. Я гатовы быў назваць Санькава прозвішча, але нечакана сам сабе здаўся размазнёй. Адразу ж узяў сябе ў рукі і адказаў:

— Я не ведаю яго.

— А шкада, — сказаў ніжэйшы. — Такіх трэба вучыць!

Я абтрасаў счарнелы вясновы снег.

— Як ты, — пацікавіўся другі. — Сам пойдзеш ці дапамагчы?

Яны доўга праводзілі мяне позіркам. Мне спадабалася, што міліцыянеры аднесліся да мяне па-мужчынску стрымана.

Дома мяне чакалі дзве непрыемныя размовы. Спачатку давялося выслухаць шмат павучэнняў ад мамы. Я ведаю яе характар: пакуль не выгаварыцца, спыніць яе цяжка! Яна гаварыла, што я зусім не асцярожны хлопчык. Прасіла ніколі не лезці ў бойку...

Тата гаварыў больш стрымана. І ўсё-такі размова была нялёгкаю.

За гэты дзень я атрымаў дзве важныя перамогі. Даў бой Саньку Кульжыку. Цяпер ён не будзе задзірацца са мной. Я перамог сябе — свой страх, жаданне ісці скардзіцца каму-небудзь.

### ***Санька Кульжык: ЦВЁРДЫ АРЭШАК***

На другі дзень пасля бойкі я раней звычайнага выйшаў з дому. Аднак да школы не дайшоў. А што, калі туды прыйдзе міліцыя? Сораму не абярэшся. Не, хочуць забраць, дык няхай лепш на вуліцы!

Дамоў вярнуўся быццам бы з урокаў. Па маміным твары бачыў, што нічога не здарылася. Кінуўся на ложак, але доўга ляжаць не мог. Пазваніў Валіку Кавальчуку.

— Слухай, што чуваць у школе?

Валік пачуў мой голас, узрадаваўся:

— Санька, ты? Чаму ў школе не быў? Захварэў?

— Ну, захварэў, захварэў! Ды не пра гэта я хачу гаварыць з табою зараз. Ты Руслана Тарасюка ведаеш? Такі рыжы. Памятаеш, мы яго з гітараю запынялі. Каб не швэндаўся. Ён яшчэ паланез Агінскага абяцаў навучыцца іграць...

— Ведаю я Руслана! Сёння ён з падбітым вокам хадзіў.

— Слухай, Валянцін, ёсць да цябе заданне.

— Якое?

— Даведацца пра гэты сіняк.

— А хіба гэта не ты яго?..

Я прамаўчаў. Валік, відаць, зразумеў мяне.

— Як гэта зрабіць? — спытаўся праз хвіліну.

— Прыкінься сябрам.

— Пастараюся…

Я раскрыў яму свой план, які ён адобрыў.

Як і намячалася нашым планам, Валік пайшоў праводзіць Руслана дамоў, каб, маўляў, Санька Кульжык (гэта значыць, я), не прычапіўся да яго!

— Нічога я не выведаў! — скардзіўся вечарам Валік. — На ўсе роспыты Руслан адмоўчваецца.

— Цвёрды арэшак гэты Руслан! — спрабаваў супакоіць я Валіка. — Але мы на правільным шляху…

Цэлы тыдзень Валік хадзіў за Русланам, як ардынарац за камандзірам. Затое ў адзін з вечароў радасны ўварваўся ў нашу кватэру.

— Усё выведаў! — паўтарыў ён, паціраючы рукі.

Як высветлілася, Руслан дома расказаў, нібыта ніякай бойкі не было, проста ён упаў і зламаў гітару.

— І паверылі?

— Мабыць, не, але па-іншаму сталі адносіцца да яго. Як да дарослага. Хутка ў Руслана дзень нараджэння, і мама прапанавала адзначыць гэтае сямейнае свята.

Валікава навіна ўсхвалявала мяне. «Ну і Руслан! — захапляўся я. — Я лічыў яго слабенькім, а ён, бач, што можа! Вырашыў сам зарабіць грошы, каб гітару купіць. Не, трэба яго апярэдзіць!»

— Валік, ты мне дапаможаш? — я ўважліва паглядзеў на сябра.

— За табою хоць у ваду! — усміхнуўся той.

Не, нездарма я лічу Валіка сваім лепшым сябрам: ён не падвядзе.

— Папрацаваць трэба ў выхадныя. Металалому, макулатуры назбіраць…

— А, табе грошы на гітару патрэбны? — здагадаўся Валік.

— Ага.

— Добра. Я і з хлопцамі пагавару. Дапамогуць Паўлік Бязважка, Пецька Івашын. Ды і не толькі яны.

### *Руслан Тарасюк: ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ*

Сёння ў нас усе прачнуліся рана. Для кожнага ёсць занятак. Тата схадзіў у магазін, хаця гэта звычайна мая справа. Але сёння мяне аберагаюць. Бо я — імяніннік.

Тата прынёс вялікі торт, ён ледзь у халадзільнік улез. Сябры павінны прыйсці ў дванаццаць. Паставілі самавар, каб да іх прыходу закіпеў чай.

Першай зайшла Тоня Бондарава. І адразу ж наша кватэра напоўнілася радасным смехам.

— Я — першая! Я — першая! — як маленькая, скакала яна на адной назе. — А Ганька Фралюк хвалілася, што яе ніхто не апярэдзіць.

Калі ўсе насмяяліся ўдосталь, Тоня са словамі: «Ведаю, што любіш прыгоды!» — уручыла мне аповесць Янкі Маўра «У краіне райскай птушкі».

Ганька Фралюк пазваніла ў дзверы хвілін праз дзесяць. Я чакаў, што яна здзівіцца, убачыўшы Тоню. Ды не, быццам і не заўважыла яе. Скубанула мяне за вуха: расці, маўляў, вялікі! Падала карабок цукерак.

Потым уваліліся сябры-аднакласнікі. У пакоі адразу зрабілася шумна. Кожны прынёс падарунак. Я не паспяваў дзякаваць.

— Малайцы, што прыйшлі! — радасна гаварыла мама.

— Руслан, кліч усіх за стол!

— А тата дзе?

— Ён хутка выйдзе.

Усе ўжо сядзелі за сталом, калі дзверы адчыніліся і ўвайшоў тата... з гітараю. Я заўважыў, што ён хвалюецца.

Паправіў акуляры, сказаў прыглушаным голасам:

— Мы з мамай вырашылі падарыць табе гітару.

Я падзякаваў за падарунак.

— Цяпер давайце чай піць, — раптам спахапіўся тата.

— Руслан, памагай мне!

Я пачаў разліваць чай, а тата рэзаў торт і клаў кожнаму на сподачак. Чай быў духмяны, салодкі. Выпілі па кубку, і мама прапанавала:

— Папросім імянінніка сыграць што-небудзь!

Я ўзяў гітару.

— Сыграй паланез Агінскага, — папрасіў тата.

Іграў я сёння правільна, але слаба. Не было той задаволенасці ігрой, якую я заўсёды адчуваў пры выкананні паланеза.

Зноў зазваніў званок. Гатовы бегчы сустракаць госця, я ў апошні раз ударыў па струнах. Тата спыніў мяне:

— Заставайся тут. Я сустрэну!

Вярнуўся ён хутка.

— Цябе, Руслан, хоча бачыць адзін хлопчык, — паведаміў тата.

— Кліч яго за стол! — сказала мама.

— Клікаў — не ідзе. Просіць Руслана на хвілінку.

Я выйшаў. Ля парога стаяў Валік Кавальчук... з гітараю.

Мы паздароўкаліся.

Валік нясмела працягнуў мне гітару:

— Санька Кульжык перадаў!

Каб не паказаць сваёй разгубленасці, спытаўся:

— А чаму сам не прынёс?

— Не ведаю... Ты бяры, бяры!

Нарэшце я ўзяў гітару.

— Ледзь не забыўся, — спахапіўся Валік. — Табе Санька гукавое пісьмо перадаў. Прасіў, каб праслухаў тады, як будзеш адзін. — І, пераскакваючы цераз прыступкі, Валік памчаўся ўніз. Я нават не паспеў крыкнуць яму, каб застаўся на чай. Найбольш уразіла мяне гукавое пісьмо.

Не маючы сіл чакаць, я пайшоў у другі пакой і ўключыў магнітафон.

«Салют, Руслан! — загучаў Санькін голас. — Віншую цябе з Днём нараджэння!

Уяўляю, як ты здзівіўся, пачуўшы мой голас. Так, гэта я, Санька Кульжык. Той самы, якога ты лічыш сваім ворагам. А я цябе ворагам не лічу. Спытаеш, чаму смяяўся з цябе, чаму пабіў?.. Была на тое прычына. Расказваць доўга і цяжка. Можа, калі-небудзь і раскажу. А зараз прашу: будзь маім сябрам! Калі зможаш.

Ведаю, сёння ў цябе госці. Мне пакуль дарогі ў твой дом няма.

Калі згодзен сябраваць, выходзь пад вечар на вуліцу. На сустрэчу. Буду чакаць!»

Я мог чакаць ад Санькі ўсяго, але не такога... Санька просіць сябравець з ім. Ды кожны хлапчук за радасць лічыў бы гэта сяброўства...

Думкі абганялі адна адну. Я забыўся пра ўсіх і ўсё на свеце. Не заўважыў, як у пакой зайшлі мама і тата.

— Ты чаго гасцей пакінуў?! — спытаўся тата. — Цябе ўсе чакаюць.

— А гэта чыя гітара? — заўважыла мама.

— Гэта... ад Санькі Кульжыка... — стомлена расцягваючы кожнае слова, адказаў я.

— Ад таго разбойніка?! — усклікнула мама. — Не патрэбен ён нам, не трэба і яго гітара! Абыдземся без яго падарунка.

Значыць, ведалі, хто мяне пабіў, і маўчалі? Дзі-іўна!

Тата раптам прамовіў:

— Пачакай, маці! Што мы ведаем пра таго Саньку? А можа, ён і неблагі хлопец...

***Аўтар: ЖЫВЕ ТАКІ ХЛОПЕЦ***

У нашым горадзе ён, Руслан Тарасюк, невысокі, у акулярах, можа здацца несамавітым. А калі трэба — гэта чалавек з характарам, “цвёрды арэшак”.

Пасля таго, як разышліся госці, Руслан з татам пайшлі гуляць. Хлопчыку не цярпелася расказаць яму ўсё. Цяпер ён не баяўся, што тата можа палічыць яго размазнёю, баязліўцам.

А калі пад вечар вярталіся дадому, сустрэлі Саньку Кульжыка. І Руслан застаўся з ім.

Прыйшоў дадому позна. Але ні тата, ні мама не папракнулі яго ніводным словам. Бо ведалі: сын іх сябраваць абы з кім не стане.

Я бачыў, як назаўтра раніцай Санька Кульжык і Валік Кавальчук чакалі яго ля пад’езда. Вось ён збег да іх, усхваляваны, радасны. Прывітаўся за руку, гучна пляснуўшы далонню аб далонь. Як звычайна робяць хлапчукі.

І яны заспяшаліся ў школу. Разам іх бачылі ўпершыню...

## ПЕРШЫ ПОДЫХ ВЯСНЫ
### Аповесць

### I. КАПЛІЦА ХАВАЕ ТАЙНУ

Асенняе сонца нізка схілілася к захаду. Чырвона-вогнены шар крануў ужо вершаліны дрэў, што ледзь віднеліся на гарызонце. Па зямлі пабеглі вечаровыя цені. Гронка рабіны, якая зазірала ў школьны пакой, з ярка-чырвонай стала барвоваю.

Заняткі ў школе даўно закончыліся, і дзятва з радасным галёканнем і гаманою разбеглася па хатах. У класе застаўся адзін Стась Вярэшка. Яго нядаўна выбралі рэдактарам насценнай газеты «За вучобу», і зараз Стась маляваў карыкатуру на Пецьку Сакольчыка.

Пецька — лепшы Стасеў сябар. З першага класа хлопцы сядзяць за адной партаю. А ў чацвёртым Сакольчык стаў ленавацца, за паўмесяцы схапіў ажно тры двойкі, і Марыя Сямёнаўна прапанавала Стасю намаляваць карыкатуру.

Як ні стараўся Вярэшка, а Пецька атрымаўся ў яго смешны. Не такі, як у сапраўднасці. Нос тонкі, як птушыная дзюба, вяснушкі-мачынкі на твары барвовыя, падобныя на ягады рабіны, што за акном. Пецька бяжыць у школу, а двойкі цягнуць яго назад...

Па калідоры затупала прыбіральшчыца цётка Ганна. Яна зайшла ў клас з лямпаю.

— Чаго ў цемнаце сядзіш?

— Канчаю маляваць...

Цётка Ганна паставіла лямпу бліжэй да газеты.

— А хто гэта такі? — жанчына здзіўлена глянула на карыкатуру. Як ні ўглядалася, пазнаць Пецьку не змагла. Прачытала подпіс: — Сын Захара Сакольчыка? — заківала, вохаючы, галавою. — І гэтак дрэнна вучыцца? Вось бэлбус! Вось няшчасце для сям'і.

«А што іншыя скажуць!? — нявесела падумаў Стась. — Той жа Адзік Варанчук? Тыя ж браты Беспшанічныя? Смяяцца будуць, пальцам на Пецьку паказваць...»

— А дзе Марыя Сямёнаўна? — спытаў праз хвяліну Вярэшка.

— Пайшла ў праўленне калгаса. Там сёння справаздачны сход праводзяць... Папрасіла мяне настаўніца, каб дапамагла табе, Стасік, газету вывесіць.

— А можа, не трэба вывешваць? — хлапчук падняў на прыбіральшчыцу вочы, быццам усё залежала ад цёткі Ганны.

— Рабі так, як Марыя Сямёнаўна сказала, — прагаварыла старая. — Ды і навошта было маляваць, калі карыкатуру ніхто не ўбачыць!

Калі павесілі газету, Стась адышоў, паглядзеў збоку. «Кожны

пакрыўдзіўся б, калі б на яго такую карыкатуру намалявалі, — вырашыў ён. — Ці захоча Пецька пасля гэтага сябраваць са мною?» Хлопцаў настрой быў канчаткова сапсаваны.

Вечаровы прыцемак ахутаў дамы і дрэвы. У гэты час Стасю не хацелася ні з кім сустракацца і ён выбраў самую далёкую дарогу. Вяртлявая, яна бегла загуменнем, вяла паўз могілкі. Хлапчук баяўся так позна хадзіць гэтай дарогаю, але зараз страху чамусьці не было.

Могілкі... Чаго іх баяцца? Можа, толькі малыя, а не чацвёртакласнік Стась верыць у байкі, што ноччу нябожчыкі нібы пакідаюць магілы, каб палохаць людзей!

Раней на могілках стаяла царква, ды ў вайну згарэла. Засталася адна капліца, ключы ў Адама Варанчука, былога царкоўнага вартаўніка. Але каму патрэбна старая, закінутая капліца?..

Раптам Стась выразна пачуў, як заскавытала-завішчала засаўка: капліцу адчынялі. Ад нечаканасці хлапчук знерухомеў: колькі хвілін стаяў з паднятаю нагою. Калі, нарэшце, паставіў на зямлю, неспадзеўкі зачапіў нейкую бляшанку. Яна гучна зазвінела, адкацілася ўбок. У Стася перахапіла дыханне. Ён аж прыліп да агароджы.

— Хто тут ёсць? — пачуўся грубаваты мужчынскі голас.

Значыць, не мерцвякі гэта, не здані! Мерцвякі, чуў Стась, моўчкі гоняцца за чалавекам. А гэты голас нечым здаўся хлопчыку знаёмым. Але хіба адразу ўспомніш чый?

Людзі чуйна прыслухоўваліся да кожнага шораху.

— Нікога тут няма, — сказаў праз хвіліну другі.

— А можа?..

— Здалося табе, Карпыч, здалося, — разважліва загаварыў зноў той другі. — Зараз усе на сходзе. Дый у цемені такой хто ўбачыць? Хіба сава?

«Карпыч? — падумай хлопчык. — Дык гэта ж Варанчук. Яго завуць Адам Карпавіч. А хто астатнія?»

Але той другі ўсё-такі памыліўся. Стасевы вочы прывыклі да цемнаты, і ён распазнаў, што каля калёс тры постаці. Мусіць, мужчыны. Адзін, пэўна, за галоўнага? Усё камандуе напаўголаса, размахвае рукамі. Напарнікі хутка знялі з калёс некалькі мяшкоў, занеслі ў капліцу. І зноў заскавытала засаўка.

Двое ўскочылі на воз і паехалі. Трэці напрасткі рушыў ад могілак. Ён прайшоў зусім блізка ад Стася. Хлопчыку нават здалося, што ён чуў цяжкае дыханне чалавека. Так подбегам у Стараселлі ходзіць Адам Варанчук.

Толькі калі заціх грук калёс, Стась пайшоў далей. Яго сэрца моцна стукала, быццам хацела вырвацца з грудзей, а ў галаве была, не праходзіла адна-адзіная думка: «Што ж хаваюць у

капліцы?»

Стась разумеў, што гэтую тайну яму сёння не раскрыць…

## 2. СТАСЕЎ ТАТА — СТАРШЫНЯ

Сустрэча з незнаёмымі ўначы, пачутае і ўбачанае скіравалі Стасевы думкі ў іншым напрамку: ён, забыўшыся пра Пецьку Сакольчыка і карыкатуру, строіў планы, як выкрыць злачынцаў. Ад гэтага настрой у хлапчука стаў бадзёрым, крок — цвёрдым.

Яшчэ здалёк Стась пачуў гаворку, што даносілася з праўлення калгаса: ішоў сход. Сёння ў праўленні не было дзе яблыку ўпасці. Мужчыны і жанчыны сядзелі на ўслонах і ўслончыках, а дзесці — проста на падлозе. Каму не хапіла сесці, стаялі паўз сцяну і на ўваходзе. Стась прабраўся праз натоўп і твар у твар сутыкнуўся з Пецькам Сакольчыкам. Крыху сумеўся, але той, нічога не ведаючы пра карыкатуру, горача зашаптаў сябру на вуха:

— Ой і крычалі! Ой і шумелі!

Стась супакоіўся, агледзеўся. Наперадзе стаяў стол, пакрыты чырвоным сукном. За ім сядзелі старшыня сельсавета Захар Астапавіч Сакольчык, старшыня калгаса Панас Сцяпанавіч Гарышчук і інструктар райкама партыі Усевалад Вадзімавіч Аляшкевіч, якога Стась бачыў у Старaселлі не раз.

— Усе выступаючыя, — загаварыў Усевалад Вадзімавіч, звяртаючыся да людзей, — выказалі думку, што таварыш Гарышчук не спраўляецца з абавязкамі старшыні калгаса «Светлы шлях». Значыць, старшыню трэба мяняць. Калі ласка, прапануйце кандыдатуры.

Людзі зашумелі, загаманілі.

— А што доўга думаць?! — з услона падняўся маленькі, худзенькі, з белай бародкай дзядок, якога ўсе звалі не інакш, як дзед Максім Захарчук. — А чаму нам не выбраць Андрэя Вярэшку? Ваяваў добра, узнагароды мае…

Стась аж падскочыў на месцы: размова ішла пра яго бацьку.

— Працавіты, — дадаў толькі адно слова Хведар Залескі.

— Добра, што вы так характарызуеце таварыша Вярэшку, — сказаў Усевалад Вадзімавіч. — Андрэй Станіслававіч, падыдзіце бліжэй да стала, пакажыцеся людзям…

Стась бачыў, як бацька падхапіўся з месца і пачаў прабірацца да стала, як стаў перад людзьмі, камечыў у руках кепку, а затым загаварыў:

— Здаецца мне… не трэба… не трэба мяне выбіраць старшынёю… Ёсць людзі і старэйшыя і разумнейшыя…

Андрэй Станіслававіч запінаўся, гаварыў глуха, з хваляваннем. Спачатку Стась гатовы быў крыкнуць бацьку, чаму ён адмаўляецца, але скора бацькава трывога перадалася яму і на

душы ў хлопчыка стала таксама неспакойна.

Людзі не ведалі, як ім тут паступаць, і зацята маўчалі. Выручыў усё той жа дзед Максім Захарчук, які не паспеў яшчэ сесці на месца. Правеўшы рукою па белай барадзе і ледзь-ледзь усміхнуўшыся ў вусы, стары сказаў:

— Ты, Станіслававіч, мусіць, ваяваў, не паглядаючы ў кусты, каб дзе-небудзь схавацца, а ішоў наперад. Інакш ордэн не далі б!

Дружна грымнуў рогат. Андрэй Станіслававіч яшчэ больш збянтэжыўся:

— Ваяваў, як трэба было…

— Вось-вось, а зараз, калі цябе старшынёй выбіраюць, гатоў у куст схавацца. Хіба ты адзін будзеш? Мы што, не дапаможам табе?!

— Хіба што разам…

Ад радасці, што ўсё так добра скончылася, Стась ледзьве не запляскаў у далоні. А калі Захар Астапавіч прапанаваў: «Давайце галасаваць за Андрэя Станіслававіча Вярэшку!» — дык Стась узняў аж дзве рукі. Захар Астапавіч, напэўна, заўважыў гэта, бо адразу папярэдзіў:

— Галасуюць толькі дарослыя!

Стась бачыў, як адна за другой узнімаліся ўверх рукі, і вочы яго свяціліся шчасцем.

Аляшкевіч павіншаваў Андрэя Станіслававіча з выбраннем яго старшынёю калгаса «Светлы шлях» і запрасіў прысесці да стала.

Слова ўзяла Марыя Сямёнаўна.

— Я працую настаўніцай у Старасельскай пачатковай школе, — сказала яна, — і хачу заклікаць аднавяскоўцаў упэўнена глядзець у заўтра. Я вось што хачу сказаць: наша дзяржава падтрымлівае развіццё калектыўнай гаспадаркі, выдзяляе сучасную тэхніку, у тым ліку і трактары. Блізка час, калі і на палях «Светлага шляху» загудзе трактар. Але падумайце, хто сядзе за яго руль.

— Гэта не конь, што накінуў аброць і пугаю! — уставіў слова дзед Максім Захарчук.

— Правільна, Максім Сафронавіч, тут веды патрэбны. Таму я прапаную паслаць на курсы трактарыстаў Толіка Залескага. Хлопец ён кемлівы, сем класаў закончыў.

— Калгас можа паслаць на курсы чалавека, — падтрымаў настаўніцу Усевалад Вадзімавіч. — Каб ён вярнуўся пасля вучобы ў МТС і абрабляў вашы старасельскія палі.

Так і вырашылі.

Сход закончыўся, і людзі пачалі разыходзіцца. Стась шмыгнуў у дзверы і пабег дамоў. У хаце на стале стаяў збан з малаком. Хлопчык наліў у кубак сырадою і смачна паеў з хлебам. Лёг у

пасцель, чакаючы, калі звярнуцца бацькі. Але не дачакаўся: стома ад ўсяго перажытага за дзень раптам навалілася на хлопца, і ён заснуў моцна, непрабудна…

Стась прачнуўся, калі сонца пазірала ўжо ў вокны, а па падушцы гуляў залацісты «зайчык», і пачуў невясёлы матчын голас:

— Страшна мне за цябе, Андрэйка. Ох, як страшна!

Бацька, наадварот, адказваў весела і ласкава:

— Чаго ты гаруеш, Паліна? Чаго табе страшна?

— У старшынь, кажуць, страляюць, — уздыхнула маці. — Баюся я за цябе…

— Дзівачка!.. — засмяяўся бацька. — Гарышчука ж ніхто не забіў!

— То Гарышчука. Ён нікуды не лез. А ў цябе характар не такі.

— Чаго нам каго баяцца?! Няхай нас баяцца. Мы новае жыццё будуем. Калектыўна, разам. Памятаеш, што ўчора дзед Максім Захарчук сказаў: памагаць мне ўсе будуць!

І чаму, сапраўды, мама баіцца! Гэта ж так здорава, што тату выбралі старшынёю! Стась у адной бялізне кінуўся бацьку на шыю, прытуліўся да яго.

— Вось бачыш, — сказаў Андрэй Станіслававіч, — Стасік таксама не баіцца! — і праз хвіліну звярнуўся да сына: — А ты мне будзеш памагаць?

— Як я змагу табе памагаць? — не зразумеў Стась.

— А дапамогі я чакаю ад цябе такой: каб ты вучыўся і паводзіў сябе добра, як і належыць сыну старшыні. Каб ніхто ніколі не папракнуў мяне. А будзе ў полі праца па сіле вам — выходзь са школьнікамі дапамагаць старэйшым. Ну, як, згода?

— Згода…

У гэту мінуту Стасю падумалася: «А можа, пра ўчарашняе начное здарэнне расказаць тату?» Але ён адразу прагнаў думку прэч, бо хацелася самому даведацца пра ўсё…

## 3. БОЙКА Ў ШКОЛЕ

У школу Стась не ішоў, а бег. Яму хацелася спяваць. І не дзіва: у каго ёсць яшчэ такі бацька!

Толькі зайшоў у калідор, як Стасевы вочы сустрэліся з сярдзітым поглядам Пецькі Сакольчыка. Хлопцаву радасць — як рукою зняло.

Калі насценнай газеты «За вучобу» стаялі браты— блізняты Беспшанічныя, або, як іх называлі, Бесавы дзеці, і Адзік Варанчук. Адзік тыкаў пальцам у карыкатуру, штосьці гаварыў, а Бесавы дзеці голасна, на ўвесь калідор, рагаталі.

Адзік заўважыў Стася, адвярнуўся ад газеты і патупаў у клас. За ім — Бесавы дзеці. Стась застаўся ўдвух з Пецькам. Сакольчык

яшчэ раз варожа зіркнуў на сябра і спытаў, сціскаючы зубы:

— Ты маляваў?..

Стась маўчаў.

— Ты ма-ля-ваў?! — выдзяляючы кожны склад, перапытаў Пецька.

— Я... — Стасю хацелася неяк апраўдацца перад сябрам, але ён не паспеў нічога сказаць, як Пецькаў кулак садануў яму пад сківіцу. Стась ледзь устаяў на нагах.

Ён схапіў сябра за грудкі, і яны пакаціліся па калідоры, малоцячы адзін аднаго. Дзверы ў класе расчыніліся, і вучні высыпалі ў калідор. Пачуўся гоман, віск. У шуме-гаме выдзеліўся голас Галькі Залескай:

— Хлопчыкі, разніміце іх!

Сцёпка Пташнік рушыў да Стася з Пецькам, але... зайшла Марыя Сямёнаўна. Ні Вярэшка, ні Сакольчык не ўбачылі яе — адчулі. Адчулі па тым, як раптам усе замоўклі і падаліся ў клас. У хлопцаў таксама не было больш жадання біцца. Яны паволі ўзняліся з падлогі і, баючыся глянуць на настаўніцу, стаялі пасярод калідора, ускудлачаныя, як пеўні.

— Хто вам дазволіў у школе распачынаць бойку?! — строга спытала Марыя Сямёнаўна.

Хлопцы маўчалі, усе роўна як праглынулі языкі.

— Не чакала я ад цябе такога, Сакольчык, — гаварыла далей настаўніца, — і ад цябе, Вярэшка! Зараз марш мыцца — і ў клас! Пачынаем урок. А заўтра няхай прыйдуць у школу вашы бацькі!

Хлопцы ішлі да сваёй парты, апусціўшы галовы. Для Стася страшней кары, чым гэтая, і прыдумаць нельга. Толькі сёння паабяцаў бацьку — і на табе!.. Але нічога не зробіш, прыйдзецца сказаць дома.

***

Вечарам АдзікВаранчук хваліўся бацьку, як ён з братамі Беспшанічнымі падцвельваў з Пецькі Сакольчыка і звёў таго на бойку са Стасем Вярэшкам.

— Настаўніца выклікала іх бацькоў у школу, — паведаміў Адзін. — Напэўна, дастанецца Пецьку і Стасю.

Гэтая навіна ўзрадавала і Адама Варанчука.

— От добра! От малайцы! — паціраў ён задаволена рукі. — Хай усе ведаюць, якія бандзюгі — сыны ў нашых старшынь. От добра!

Адзік не паспеў нарадавацца бацькавай пахвалою, як Адам Карпавіч сагнаў усмешку з твару і змяніў гаворку:

— Ды трэба ўсё рабіць разумна, каб і камар, як кажуць, носа не падтачыў!

— Як гэта — разумна? — пацiснуў плячамi Адзiк.

— Каб i нашкодзiў, i нiхто пра гэта не здагадаўся, — павучаў Варанчук-стрэйшы. — Iнакш з пiянераў могуць выгнаць.

— Бяда вялiкая! — Адзiк глянуў на бацьку. — Мне надакучыла ўжо насiць гальштук. Бесавы дзецi зусiм не ўступалi ў пiянеры.

— Iх не прынялi. Гэта iншая справа. А табе яшчэ жыць i жыць. I хто ведае, куды цябе жыццё паверне! Таму прашу цябе, будзь асцярожным!..

## 4. РАЗВЕДЧЫКI МIРНАГА ЧАСУ

Каго Пецька Сакольчык лiчыў вiнаватым у тым, што здарылася, Стась ведаў. Сам жа вiнавацiў сябра. «Не пачаў бы Пецька бойку, — думаў Стась, — не выклiкалi б у школу бацькоў…»

Iсцi дадому хлопцу не хацелася. Ён без справы бадзяўся па вулiцы, каб прыйсцi дахаты позна i толькi заўтра ранiцай сказаць бацьку, што яго выклiкае Марыя Сямёнаўна.

Як сталася, што яны з Пецькам селi на адзiн камень, якi ляжаў на абочыне дарогi, нi тады, нi пазней нiхто з хлопцаў растлумачыць не мог. Сядзелi адзiн да аднаго спiною. Як ворагi.

Настрой у хлопцаў быў сапсаваны.

— Слухай, Пецька, — не выцярпеў Стась, — я табе зараз такое раскажу, што ахнеш!

Той нават не варухнуўся, i Стась закончыў без перадыху:

— У нашай каплiцы нешта хаваюць!

Пецька ўмiг павярнуўся да яго тварам:

— Хто хавае?

Стась зразумеў, што прагаварыўся, i заявiў:

— Больш ад мяне не пачуеш нi слова, калi не паабяцаеш, што нiкому не скажаш пра гэта!

Пецьку не цярпелася даведацца пра ўсё, i ён выпалiў як з гарматы:

— Няхай я век толькi зямлю буду есцi, калi прагаваруся! Няхай я… — Пецька не мог прыдумаць яшчэ закляцце, але Стасю i гэтага было дастаткова. Ён нахiлiўся блiжэй i загадкава зашаптаў:

— Не ведаю хто, але ўчора бачыў, як у каплiцу хавалi мяшкi. Адзiн, мусiць, быў царкоўны вартаўнiк Адам, бо называлi яго Карпычам i такi ж рухавы, як Варанчук, — i Стась расказаў усё.

У Пецькi адразу загарэлiся вочы:

— Давай высачым! Будзем … разведчыкамi!

— Так ужо i разведчыкамi! — крыва ўсмiхнуўся Стась.

— Зараз вайна табе, цi што?

Захар Астапавiч Сакольчык у вайну быў разведчыкам, i Пецька, дзе трэба было, дзе не трэба, хвалiўся геройствамi свайго бацькi.

— А мы будзем разведчыкамі мірнага часу! — заявіў Пецька. Такая прапанова Стасю спадабалася.

Да могілак хлопцы падышлі, калі сцямнела. Каб ніхто не бачыў. Месяца на небе не было відаць: яго схавала хмара.

Хлопцы леглі ля агароджы. Чакаць прыйшлося доўга.

Нарэшце Пецька нецярпліва паварушыўся:

— А мо табе ўчора гэта прыснілася? — пацвяліў ён сябра, але Стась прыклаў раптам палец да вуснаў:

— Цішэ-эй!

На дарозе трахкалі калёсы.

У гэты час з другога боку, дзе жыў Адам, борздка прайшла чорная постаць. Прайшла да капліцы. Як і ўчора, жаласліва заскавытала засаўка.

На возе былі двое. Адзін падаваў мяшкі на плечы, другі, крэкчучы, насіў іх да капліцы. Яму, мусіць, было нялёгка, бо пасля кожнага разу адпачываў.

— Адзін, два, тры, чатыры, пяць! — лічыў мяшкі Пецька Сакольчык. — А ведаеш, — не ўцярпеў ён, — гэты, што носіць, — Беспшанічны.

Было ціха-ціха, і Стасю здавалася, што кожнае іх слова, кожны шорах далёка занясе рэха.

— Маўчы ты, маўчы! — суняў ён сябра.

Месяц урэшце выбіўся з-за хмары і асвяціў наваколле. Стась ажно прыўзняўся: хацелася разглядзець людзей. Маленькага, рухавага — увесь час бегаў — пазнаць было няцяжка: Адам Варанчук.

Другі, каржакаваты, добра збіты мужчына, які насіў мяшкі, увесь час хаваў свой твар у высокім каўняры кажуха. Ён, і сапраўды, вельмі нагадваў Беса Пшанічнага.

Бес Пшанічны, або проста Бес, — вясковая мянушка Антона Андрэевіча Беспшанічнага. Мужык ён быў багаты. Жыў ён на хутары. Адзіная дарога, па якой сёння везлі мяшкі, звязвала хутар Беспшанічнага з вёскай Стараселле.

У яго свіранах заўсёды была збажына. У галодную вясну старасельцы часта ішлі да Беса на паклон, і ён даваў жыта ў доўг. Каб потым вярнулі да апошняга зярнятка, дый адпрацавалі дзень-другі на ягоным полі.

Гады тры назад, калі загаварылі пра калгасы, Бес на людзях пачаў плакацца:

— Няўрод у мяне сёлета. Не ведаю, як сям'ю пракарміць!

Але ў Стараселлі не надта верылі яму. Па вёсцы хадзіла чутка: «Бес Пшанічны, маўляў, ноччу снапы ў гумно возіць, каб менш ляшак у полі стаяла.

... Капліцу ўжо замкнулі. Трэці, каго хлопцы так і не змаглі пазнаць, прымасціўся ззаду на возе. Адам Варанчук раптам

подбегам (ці развітаўся хоць?) знік. Бес Пшанічны ўзбраўся на калёсы, нокнуў на каня. Потым ямчэй схаваў голаў у каўняры, глянуў уверх і незадаволена буркнуў:

— Чортаў месяц!

Воз рушыў з месца.

Месяц перашкаджаў і хлопцам. Але якія яны былі б разведчыкі, калі б не прасачылі да канца! Дзе паўзком, дзе хаваючыся за агароджу, хлопцы кіраваліся за вазніцаю ўслед.

— Давай у абыход! — прапанаваў Пецька.

Да Бесавага двара хлопцы прыйшлі першымі. Счакалі за вялізным яварам. За метраў трыста. Бліжэй падысці не адважыліся: у Беса ажно два сабакі. Адзін пагаўкваў хрыплаватым басам: можа, усё-такі пачуў чужых!

Калі пад'ехалі калёсы, нечакана расчыніліся вароты. Воз, не спыняючыся, заехаў у двор. Значыць, гэты прыезд тут нехта чакаў.

## 5. АБХОДНЫ МАНЕЎР

Стась стаяў перад бацькам. Андрэй Станіслававіч гнеўна гаварыў пра ганебны сынаў учынак. Хлопец чырванеў і маўчаў.

— Я не буду больш! Даю слова, што не буду, — толькі і вымавіў ён.

Я хацеў бы, каб ніколі-ніколі Марыя Сямёнаўна не гаварыла, што мой сын паводзіць сябе дрэнна, — сказаў Андрэй Станіслававіч. — У апошнія дні ты штосьці доўга стаў затрымлівацца пасля ўрокаў? Хачу, каб адразу пасля заняткаў прыходзіў дахаты. Дамовіліся?

Сын кіўнуў галавою: дамовіліся!

За акном пачуўся свіст: па вуліцы бег Пецька Сакольчык. Ён заўважыў сябра, гукнуў:

— Стась, пайшлі хутчэй!

Бацька глянуў у акно:

— Дык вы, аказваецца, памірыліся ўжо?

— Памірыліся...

— Вось і зразумей гэтых хлопцаў! — паціснуў плячамі Андрэй Станіслававіч. — То б'юцца, то мірацца...

— А вы як з Захарам Сакольчыкам жылі? — заўважыла маці. — І біліся, і мірыліся, а сябрамі на ўсё жыццё засталіся. Так і дзеці нашы...

Стась схапіў партфель і выбег на вуліцу.

— Я не магу больш сачыць, — сустрэў яго Пецька.

— Ты што, баішся?!

— Зусім не! — устрапянуўся Пецька. — Бацька не пускае. Кажа: "Вучыцца не хочаш, толькі швэндаешся па начах!"

— І мяне не пускаюць, — прызнаўся Стась.

— Што ж будзе? — у роспачы ўсклікнуў Пецька.

Становішся сапраўды было безвыходнае. Але сябар не быў бы Пецькам Сакольчыкам, калі б не знайшоў і з яго выйсця.

— А калі зрабіць так?.. — задумненна пачаў ён. Гаварыў ён паціху, але Стась падскочыў, як ад стрэлу:

— Разведчыкі кажуць: «Калі нельга ісці проста, тады трэба выбраць абходны манеўр…»

«Ізноў разведчыкі!» — незадаволена падумаў Стась, але Пецькаў план выслухаў да канца. Быў ён няхітры: «Сачыць неабходна не ўдвух, а па адным і праз дзень. А каб ніхто не заўважыў, што ноччу хлопцы адлучаюцца з дому, пакідаць хату тады, калі ўсе спяць. І лепш вылазіць у акно.

Адно непакоіла Стася: «Калі нават ніхто не заўважыць падману, дык і ў гэтым выпадку, ці мае ён права ў другі раз не стрымаць свайго слова?..

— Мы ж не што-небудзь благое робім, — спрабаваў супакоіць яго Пецька. — Выкрыем, хто хавае ад калгаса збожжа, нам дзякуй скажуць!

— А хто будзе першы дзяжурыць? — нарэшце здаўся Стась.

— Магу я сёння, а ты — заўтра…

— Як?

Аднак Стасю здавалася: несправядліва пад удар першага падстаўляць сябра. Ён падняў з зямлі кіёк, сталі мерацца: хто апошнім возьмецца за кіёк, таму і сачыць сёння. Выпала Пецьку.

— Бачыш, мне! — засмяяўся ён. Ці варта было мерацца?

Пецька быў вясёлы ад таго, што ўгаварыў сябра.

У доме Сакольчыкаў павячэралі рана, не дачакаўшыся Захара Астапавіча. Толькі паелі, Пецька прытворна пазяхнуў і сказаў:

— Спаць нешта хочацца.

Маці крыху здзівілася: звычайнна загняць сына ў пасцель было нялёгка — Пецька прыдумляў розныя адгаворкі. А сёння ён пайшоў у свой пакой і, не распранаючыся, лёг.

Неўзабаве прыйшоў бацька.

— А Пецька дзе? — пацікавіўся ён.

— Спіць ужо.

Хвілін праз дзесяць у хаце патухла святло. Наступіла цішыня. Пецька яшчэ колькі часу паляжаў з расплюшчанымі вачамі, пачакаў, каб заснулі бацькі.

Затым паціху, каб не перакуліць нічога, не нарабіць шуму, ён дабраўся да акна, адчыніў і скокнуў у агародчык. Прыслухаўся: нічога падазронага. Пералез цераз штыкетнік і пабег да могілак. Зайшоў не з дарогі, а з другога, цёмнага боку.

Фурманка ўжо ад’язджала. На возе сядзелі двое. Пецька

праводзіў іх вачамі, аж пакуль не схаваліся ў цемры.

Хлопчык ішоў да дому і чуйна ўслухоўваўся ў цішыню. Гаўкнуў Бесаў сабака. Гаўкнуў і замоўк: мабыць, пазнаў гаспадара. «А хто ж той другі? — ні на хвіліну не пакідала Пецьку думка. — Гэта ж не Адам...»

Заўтра на Стасева запытанне: «Ну, як?» — Пецька адказаў коратка:

— Мяшкі прывозілі. Быў і незнаёмы. Але хто ён, не ведаю...

— Загадку ўсё роўна разгадаем! — на радасць Пецьку, упарта заявіў Стась.

## 6. НАЧНЫЯ «ЗАДАНІ»

Па-летняму цёплы верасень змяніўся халодным кастрычнікам. З дажджамі і непагаддзю. Вецер зрываў з дрэў апошнюю пазалоту.

Пра тое, што Стась Вярэшка і Пецька Сакольчык амаль кожную ноч бываюць ля капліцы, у Стараселлі, здаецца, ніхто не здагадваўся. А хлопцы падлічвалі мяшкі, што прывозілі сюды пад покрывам ночы Бес Пшанічны, Адам Варанчук і незнаёмец, марылі, калі ў рэшце рэшт да канца раскрыюць тайну і змогуць пра яе расказаць усім. У думках яны бачылі сябе героямі.

Толькі тайне было суджана раскрыцца не так, як прадбачылі хлопцы.

Зноў сабраліся! — нездаволена буркнуў Воўка Беспшанічны. Ён ведаў, што і брату Ваську не падабаецца, калі да іх у хату прыходзяць Адам Варанчук і чорнабароды, якога бацька заўжды называе дзядзькам Марцінам.

Звычайна тады хтосьці з братоў-блізнят (а то і адразу абодва) вартуе на вуліцы. Бо Антон Андрэевіч гаворыць:

— Не трэба, каб нас хтосьці бачыў разам...

Сёння паслалі вартаваць меншага Бесавага сына — Сёмку. Мусіць, таму, што на двары імжыць нудны дождж. Не лье і не перастае. Хто ў такую непагадзь ходзіць па вуліцы!

Блізняты бачаць: Семка сядзіць на ганку і ліжа драбок цукру, які даў малому Адам Варанчук. «Як так, без цукру, дык нам з Васькам пільнуй, — думае Воўка, — а як з цукрам, дык Сёмку...»

Васька цягне яго за рукаў, перапыняе думкі. Блізняты прыслухоўваюцца: раней у пярэдняй гаварылі напаўголаса — зараз гучна, не хаваючыся.

— Хочаце — верце, хочаце — не, але мяне апошні час не пакідае адчуванне, што за намі нехта сочыць, — гаварыў Адам Варанчук. — Каля капліцы мне ўвесь час здаецца: скрозь цемру на нас глядзець нечыя вочы...

— У страха вочы вялікія! — зарагатаў Бес Пшанічны.

— Дарма смяешся, Антоній, — спыніў яго чарнабароды. — Раз з'явілася нейкае сумненне, трэба праверыць!

— Як праверыць? — амаль адначасова запыталі Адам Варанчук і Бес.

— А вось так! — Марцін падышоў да дзвярэй, шырока расчыніў іх і, убачыўшы ў кухні братоў-блізнят, нараспеў паклікаў: — О, прыйдзіце сюды, отракі!

Учэпістыя Марцінавы вочы, быццам магніт, пацягнулі братоў. Як жаба, якая хоча не хоча, а паўзе на вужакі, так і Бесавы дзеці, ледзь перастаўляючы ногі, рушылі ў пярэднюю.

— Ну, смялей, смялей! Чаго вы, отракі, такія палахлівыя? — спяваў-смяяўся чорнабароды.

Высокі дзядзька Марцін схіліўся над братамі.

— Я думаю, вы любіце тату і маму? — спытаў ён нечакана такім басам, што мароз у хлопцаў пайшоў па спіне. І яны ледзь чутна адказалі:

— Лю-юбім...

— Значыць, вы паможаце нам, — гаварыў далей дзядзька Марцін. — Можа, хто сочыць за намі, калі мы ездзім да капліцы, дык вы напалохайце яго так, каб ён на векі вечныя дарогу туды забыў...

Братам спадабаліся словы чорнабародага.

— Адлупцаваць можам, — запэўніў Воўка.

— Вось і малайцы!..

***

Дождж к вечару перастаў, але дарма Стась, выбіраючыся з дому, не ўзяў паліто: зараз ён адчуваў, што ад холаду зуб на зуб не трапляе. Ды скора ён забыўся пра холад, бо ўсё цела працяў страх: з-за вугла могілак з'явіліся тры белыя здані. Каб хто пра такое расказаў, Стась ніколі не паверыў бы, пасмяяўся б: «Казкі!» Але зараз здані ўсё бліжэй падыходзілі да хлопца, і ён яшчэ шчыльней прыціснуўся да слупа: можа, не заўважаць, пройдуць міма?

Ды не, яны акружылі Стася. Хтосьці хрыплавата, як малады пеўнік, прапішчаў:

— Ах, ты тут, нягоднік!

На Стася пасыпаліся ўдары. Найвышэйшы налаўчыўся і садануў хлопцу ў твар. Стась зразумеў, што яшчэ хвіліна і яго саб'юць з ног, а тады не чакай ад бандзюг літасці. Як не хапала яму зараз Пецькі!

Стась прыгнуўся і гваздануў галавою проста ў жывот самай высокай "здані". Яна па-чалавечы войкнула і асела на зямлю. У той жа момант кінуўся ў прагал, што раптам атрымаўся, і пабег.

«Здані» пагналіся за ім і, можа б, дагналі, калі б першы

бандзюжка не запутаўся ў белай сутане і не паваліўся. Другі наляцеў на яго. Ім нічога не заставалася, каб, падхапіўшыся, моцна свіснуць услед. Чуйнае рэха далёка панесла гэты свіст…

## 7. ПРЫЗНАННЕ

Стась пералез цераз паркан, дабраўся да акна хаты і з жахам заўважыў: акно знутры было зашчэплена. Яшчэ горш забалела падбітае вока. Стала млосна. Хлопец зразумеў, што яму прыйдзецца трымаць адказ перад бацькамі.

Хацеў не хацеў, а вымушаны быў пастукаць у дзверы. У хаце, відаць, не спалі: маці адразу пайшла адчыняць.

— Ты куды хадзіў? — накінулася яна на сына.

Стась маўчаў: сказаць праўду ён не мог, зманіць – таксама.

Маці запаліла лямпу, стала святлей. Яна раптам успляснула рукамі:

— А што гэта з табою? Хто цябе так пабіў?

Падняўся бацька, агледзеў сына. Але нічога не сказаў. Маці прынесла ручнік, змочаны ў халоднай вадзе, прыклала да балючага месца.

— Швэндаецца недзе па начах! Маніць, — не вытрымала, папракнула яна сына.

— Не магу я зараз расказаць, — хутка загаварыў Стась. — Не маю права падвесці другога. Як і не мог не пайсці сёння.

— Каго падвесці? — дапытвалася маці. — Ці не Пецьку Сакольчыка? — і не дачакаўшыся адказу, задала новае пытанне: — Куды хадзіў?

— Не магу сказаць! — зноў упарта заявіў Стась.

Бацька, здавалася, аб нечым здагадваўся і цяпер заступіўся за хлопца:

— А мо і праўда трэба пачакаць! Пайшлі, Паліна, спаць. Мо раніцай што праясніцца. Нездарма ж кажуць: пераначуем — болей пачуем!

— Дарма ты яму патураеш! — доўга не магла супакоіцца маці. — Сам бачыш, што да дабра гэта не вядзе!..

Раніцай, калі Стась выйшаў на кухню, маці моўчкі падала яму снедаць. Ён зразумеў: маці крыўдуе на яго. Потым прыйшоў перакусіць бацька. Але і ён ні аб чым не спытаў сына. Бацькі чакалі, калі ён прызнаецца сам.

Увесь ранак Стась адчуваў сябе ніякавата, як бы злоўленым на нечым нядобрым. Яму хацелася бегчы да Пецькі, расказаць пра ўсё сябру. Ды нечакана Пецька завітаў сам. Прыйшоў па кнігу. Ён заўважыў Стасеў сіняк, здзівіўся:

— Хто цябе так?

Стась пацiснуў плячамі: не ведаю!

Андрэй Станіслававіч зразумеў: хопіць гуляць у хованкі, пара пачынаць з хлопцамі адкрытую гаворку. І спытаў Пецьку:

— Стась ведае нейкую таямніцу, ды ўсё маўчыць. Як ты думаеш, Пецька, ці ягоная тайна не пра тое, дзе хавае намалочанае зерне Бес Пшанічны?

Не трэба было быць вялікім псіхолагам, каб заўважыць, што словы Андрэя Станіслававіча трапілі ў цэль: Пецька раптам страпянуўся, а затым сцяўся ўвесь.

— Адкуль вы ведаеце, што Бес хавае зерне?! — выпаліў ён.

— Які б я быў старшыня калгаса, — усміхнуўся Андрэй Станіслававіч, — калі б не знаў, што робіцца ў Стараселлі!

— Чаму не ведаем? — Стась нарэшце зразумеў, што прыйшоў час прызнавацца. — У капліцы, што на могілках.

І пачаў расказваць, як яны з Пецькам сталі разведчыкамі, як сачылі за Бесам.

— У капліцы, кажаш? — дзівавaўся бацька. — О, хітры, як чорт!... То мо і ведаеце, хто памагаў яму?

— Адам Варанчук! — выпаліў Пецька. — А трэцяга ніяк не пазнаем...

— Даведаемся і пра трэцяга, — супакоіў хлопцаў Андрэй Станіслававіч. — А куды Бес салому хавае?

— Не, не бачылі, — адказалі хлопцы.

— Вы здзіўляецеся, адкуль я ўсё ведаю? — пачаў гаварыць Андрэй Станіслававіч. — Мне вартаўнік дзед Максім Захарчук казаў: амаль штоночы на Бесавым гумне цапы ляпаюць, нехта, як людзі спяць, малоціць збажыну. Я пасылаў Хведара Залескага, каб усё праверыў. Ды хіба Беса правядзеш! Шырока расчыніў гумно, паказвае і скардзіцца: «Чаму на мяне ўсё напраслiну ўзводзяць?! Дзе збожжа? Калі яго, скажам, закапаць можна, дык салому не схаваеш!.. Цяпер усё знойдзем. Абавязкова знойдзем. Дзякуй вам, хлопцы, за дапамогу!

Ад таго, што ўсё расказаў бацьку, нечакана Стась адчуў палёгку. І тут ён успомніў, што ўчора, пасля бойкі, у яго засталася чужая шапка. Як трапіла яна да Стася ў рукі, хлопец не мог растлумачыць.

— Выходзіць, вы сачылі і за вамі сачылі! — зазначыў Андрэй Станіслававіч .

— Мусіць, так...

Стась прынёс шапку.

— Здаецца, гэта Адзікава кепка, — прызнаў яе Пецька.

— Значыць, білі цябе, — зрабіў вывад Андрэй Станіслававіч, — Бесавы дзеці разам з Адзікам Варанчуком. А навучылі іх, канечне, старэйшыя. Толькі ўсё гэта трэба яшчэ праверыць, даказаць. Як і тое, куды Бес хавае салому...

— І нам можна будзе памагаць вам? — спытаў Пецька і затаіў дыханне, чакаючы, што адкажа старшыня калгаса.

— Дарагія мае разведчыкі, хіба можам мы адмовіцца ад вашай дапамогі! — прагаварыў Андрэй Станіслававіч і прыціснуў Пецьку і Стася да сябе.

## 8. САЛОМУ ВЯЗУЦЬ... У ЛЕС

Ніна Пташнік — старэйшая Сцёпкава сястра. Яна працуе важатай у Замошанах, у сямігадовай школе, а жыве ў Стараселлі. Ніна часта бывае ў пачатковай школе. То кніжку пачытае, то новую гульню развучыць, то дапаможа Марыі Сямёнаўне правесці збор... Яе прыходу заўсёды рады старасельскія школьнікі.

Сёння Ніна аб'явіла:

— У пятніцу будзе касцёр!

Усе ажывіліся, а Галька Залеская спытала:

— А пра што ты раскажаш нам?

— Ваш атрад змагаецца за прысваенне імя Паўліка Марозава. Я раскажу вам пра піянера-героя, прачытаю паэму пра яго.

Дзяўчынкі запляскалі ў далоні.

— Толькі на касцёр мы не возьмем тых, хто лянуецца вучыцца, — сказала Ніна і, быццам выпадкова, глянула на Пецьку Сакольчыка.

Той адразу апусціў вочы і паспешна загаварыў:

— Я пастараюся да пятніцы выправіць апошнюю двойку!

І Пецька пастараўся...

...Касцёр дагараў. Агонь ужо амаль патух. Навакол ціша: ні гуку, ні шораху. Цемень усё бліжэй падступае да вогнішча. Пара дадому.

Атрад вяртаўся ў Стараселле з песняю.

Калі дзеці падыходзілі да лугавой дарогі, па ёй затарахцелі калёсы: воз, гружаны саломаю, кіраваўся да лесу.

— Сало-о-ома! — выдыхнуў Пецька.

Стась прыгадаў сваю размову з бацькам.

Не згаворваючыся, хлопцы шмыгнулі ўбок.

— Куды вы? — здзіўлена запытала Галька Залеская, якая ішла за імі.

Пецька і Стась цыкнулі на яе ўжо з-за куста:

— Цішэй ты!..

Песня аддалялася, а Пецька са Стасем ішлі ўслед за фурманкаю.

Яна ўехала ў лес. Сачыць цяпер стала лягчэй. Праўда, хлопцам было страшнавата: над іх галавамі дрэвы шумелі глуха, насцярожана.

Неўзабаве воз павярнуў управа.

— Няўжо да леснічоўкі? — выказаў здагадку Пецька.

— Дык там ніхто не жыве.

У ёй да вайны яшчэ жыў ляснік Сымон Чарнавецкі з сям'ёю. У сорак другім за сувязь з партызанамі яго расстралялі немцы, а Сымоніха з дзецьмі перабралася ў Стараселле да бацькоў. З таго часу леснічоўка і пустуе…

Калёсы пад'ехалі да хаціны. Спыніліся.

Двое мужчын (калі з'явіўся другі, хлопцы не прыкмецілі) пачалі ўносіць салому ў леснічоўку.

— Адно дзіва навокал! — не ўнімаўся Пецька. — То збожжа ў капліцы хаваюць, то салому ў лес возяць.

— Што ж тут дзіўнага! — не пагадзіўся з ім Стась. — Гэта ўсё Бес Пшанічны astaraецца. Трэба будзе расказаць пра салому тату… Ведаеш, Пецька, а Ніна, напэўна, шукае нас і злуе, — напомніў ён сябру.

Хлопцы дагналі атрад недалёка ад Стараселля якраз тады, як Ніна спахапілася, што зніклі Стась Вярэшка і Пецька Сакольчык. Збіраліся ўжо ісці шукаць іх.

Дасталося, вядома, уцекачам.

## 9. КАЛЯ СТАРОЙ ЛЕСНІЧОЎКІ

Хлопцам карцела як найхутчэй расказаць старшыні калгаса пра тое, што яны выведалі, куды Бес Пшанічны салому хавае. Яшчэ зранку яны прыйшлі ў праўленне. Тут, апрача Андрэя Станіслававіча, быў і Захар Астапавіч.

Твары ў хлопцаў былі не на жарт заклапочаныя, і Андрэй Станіслававіч адразу ж пацікавіўся:

— Ці не адшукалі нашы разведчыкі нешта новенькае?

Хлопцы расказалі.

— Значыць, мы з Захарам Астапавічам не памыліліся, калі прапанавалі вам працягваць сачыць за Беспшанічным. Дарэчы, вы не знаеце, хто той трэці? — нечакана спытаў Андрэй Станіслававіч.

— Не ведаем…

— Ёсць у нас думка і наконт трэцяга, — сказаў старшыня калгаса. — Ды, мусіць, рана яшчэ пра яго гаварыць…

— Нядоўга засталося ім гуляць на волі, — уставіў слова Захар Астапавіч. — На гэты раз Бес не выслізне з нашых рук, як удалося яму ў час раскулачвання.

А Андрэй Станіслававіч прапанаваў:

— Трэба вам, хлопцы, яшчэ раз пабываць каля леснічоўкі.

— Мы зараз! Мы ў адзін міг! — падхапіўся Пецька.

— Не трэба зараз, — ахаладзіў яго пыл Андрэй Станіслававіч. — У нядзелю збярыцеся з хлопцамі ў лес у грыбы. І, быццам

неспадзявана, прыблудзіце да леснічоўкі...

***

Грыбнікоў сабралася шэсць чалавек.

Калі ішлі ў лес, з-за хмары, шэрай, дажджавой, выглянула сонца. Няяркае, асенняе. Выглянула і зноў схавалася.

У лесе было сыра. Варта было дакрануцца да галіны, як адразу абсыпалі сцюдзёныя, пякучыя кроплі. Асабліва было непрыемна, калі яны траплялі за каўнер.

Дарэмна хваліўся Сцёпка Пташнік, што ведае, дзе растуць баравікі. Хлопцы добра набілі сабе ногі, а грыбоў сабралі нямнога. І то больш зялёнкі, падзяленкі, лісічкі.

Сцёпка ажно нерваваўся:

— Нядаўна колькі з татам сабралі. І куды яны сёння падзеліся?

Па галінах зашапацеў асенні дождж. Стась падміргнуў Пецьку: сёння дождж быў для іх як памочнік.

— Прамокнем да ніткі. Пабеглі да леснічоўкі! — і першым Пецька падаўся ўправа. За ім — усе.

Леснічоўка была старая. Адзін яе вугал асеў, перакасіўся. Ганак таксама згніў. Калі хлопцы ступілі на яго, дошкі прагнуліся так, што Пецька нават пажартаваў:

— А мы хоць у Амерыку не правалімся?

Стась, як ніколі, быў сур’ёзны, не падтрымаў жарт. Ён са Сцёпкам Пташнікам стаяў ля самых дзвярэй. Скасавурыў вочы на замок: паржавелы, ніколі не згадаешся, што нядаўня адмыкалі.

Не вытрымаў, пакратаў замок. У тую ж хвіліну нешта вялізнае зашамацела за дзвярамі. Глянуў на Сцёпку: у таго вочы пакруглелі ад здзіўлення. Значыць, таксама чуў.

— Што там зашамацела? — паціху спытаў Сцёпка.

Стась не ведаў, што адказаць, але выручыў Пецька:

— А што там можа быць, — бесклапотна засмяяўся ён. — Мо вуж які завёўся альбо змяя?..

Смех атрымаўся ненатуральны: сам Пецька не верыў таму, што сказаў. Бо яны са Стасем былі сведкамі, як заўчора пакаваў сюды салому Бес Пшанічны.

Колькі затым Стась ні прыслухоўваўся, больш нічога не пачуў. За дзвярамі — мёртвая цішыня.

Дождж неўзабаве сціх, і хлопцы пайшлі дадому. Адыходзячы, Стась яшчэ раз глянуў на забітае акно: там ледзь бялела салома...

## 10. ПАЖАР

Стась прачнуўся ад моцнага стуку ў раму. Не паспеў падхапіцца, як нечы басавіты голас за акном выгукнуў:

— Уставай, старшыня, пажар!

Бацька ўжо апранаўся на хаду. Накінуўшы паліто на плечы, ён выскачыў на вуліцу. Стась — за ім. Наўздагон ляцела матчына запытанне:

— А ты куды, Стасік?

Але дзе тут застанешся ў хаце!

Па вуліцы бегла процьма народу. Хто — з вядром, хто — з рыдлёўкаю, хто — з сякераю, а хто — і проста так. Людзі аб нечым спрачаліся, але разабраць што-небудзь у гэтым шуме-гомане было немагчыма. Цяпер было бачна, што гарэць не калгасныя хлявы, а далей. Мусіць, лес.

Лес пачынаўся адразу за Стараселлем. Дрымучы, векавы, ён сёння асвятляўся чырвонымі языкамі полымя і нагадваў нейкае былiннае страшыдла. То цемна-багровае, то залацiста-чырвонае.

Калі людзі выбеглі на ўзлесак, стала зразумела: гарэла леснічоўка.

Сапраўды, старэнькі домік гарэў як свечка. Іскры ўзляталі высока ў неба. Іх падхопліваў вецер, адносіў убок, і яны падалі на траву, кусты, дрэвы.

— Тушыце агонь! Пілуйце, сячыце дрэвы! Капайце равы! Не дайце агню разрасціся! — скамандаваў Андрэй Станіслававіч, і людзі ўзяліся за работу.

У гэты момант… грымнуў стрэл. Стась нават не пачуў яго за звонам піл і стукамі сякер. Толькі хвіліну назад бацька стаяў наперадзе ўсіх, а то раптам пачаў паволі асядаць на духмяны верас.

— Тата! — выдыхнуў Стась і кінуўся да бацькі. Падбег і Захар Астапавіч. Разам паклалі на мурог… Жанчыны перавязалі рану.

— Хто страляў?! — выгукнуў Хведар Залескі.

Мужчыны кінуліся ў лес. Быццам зараз, уначы, можна было каго-небудзь адшукаць. Неўзабаве вярнуліся з пустымі рукамі.

Між тым гарэлі дрэвы. Полымя чырвонай вужакай узбіралася на самыя вершаліны, пераскоквала вавёркаю з яліны на яліну. Агонь ішоў у напрамку сяла. Здавалася, не было такой сілы, якая змагла перамагчы гэтую стыхію.

— Запальвайце стрэчны агонь! — крычаў Захар Астапавіч.

І вось яны сустрэліся, гэтыя два агні. Грозныя, бы воіны. Схапіліся, здавалася, у рукапашную. І раптам пачалі меншаць, чэзнуць.

А людзі капалі равы, пілавалі дрэвы…

Выглянулі першыя промні, калі старасельцы закончылі работу. Сям-там яшчэ дыміліся смаляныя пні, але агонь быў пераможаны.

Стомленыя, чорныя ад сажы і дыму, людзі вярталіся дамоў. Ішлі моўчкі, думалі пра адпачынак. Мужчыны неслі Андрэя

Станіслававіча на руках. Ён цяжка дыхаў. Гаварыў, часта робячы паўзы:

— Нічога, нас так не возьмеш... Будзем жыць па-новаму... Абавязкова... будзем жыць...

Раптам адна з жанчын спынілася, прыслухалася і з трывогаю спытала:

— Што там за плач у Гарышчукоў?

Дыхнуў вецер, і цяпер усе выразна пачулі: у двары Гарышчукоў нехта галосіць. Забыўшыся пра стому, людзі кінуліся туды і ўбачылі жудасную карціну. Пасярод двара ніцма ляжаў мёртвы Панас Гарышчук. Над трупам плакала, убівалася жонка. Доўга прыйшлося чакаць, пакуль яна змагла што-небудзь расказаць:

— Ноччу хтосьці пастукаў... Панас, ідучы адчыняць, супакоіў мяне: «Ты спі. Я скора вярнуся!» А ранкам прачнулася: няма... яго, а ён ляжыць забіты!.. — і зноў залілася слязьмі: Як я магла спаць... у тую хвілю, калі забівалі яго!.. Чаму не пачула маё сэрца?..

Жанчыны стараліся суцешыць няшчасную.

— Людзі, знайдзіце... знайдзіце забойцу... — прасіла Панасіха

— Знойдзем, Галіна, і атрымае ён сваё, — паабяцаў Захар Астапавіч.

Людзі доўга не маглі паверыць у тое, што здарылася. Каму гэты ціхмяны Панас Гарышчук насаліў, каму дарогу перайшоў?

Андрэя Станіслававіча адправілі ў раённую бальніцу. Стась, застаўшыся адзін у хаце, засеў за урокі. Задача сёння, як на тое, не рашалася. Скора забег Пецька Сакольчык і з парога выпаліў:

— Мой тата некуды сабраўся ехаць: каня запрагае!

Пецька, як аказалася, увесь час цікаваў, чым займаецца Захар Астапавіч.

Толькі хлопцы паспелі выскачыць на вуліцу, як міма з грукатам прамчалася фурманка. У ёй сядзеў старшыня сельсавета.

— У раён паехаў, — нібы прачытаў Стасевы думкі Пецька.

## 11. ДОПЫТ АНТОНА БЕСПШАНІЧНАГА

Хлопцы позіркам сачылі за дарогаю і не прапусцілі, калі воз вяртаўся ў Стараселле. Апрача Захара Астапавіча, на ім сядзелі трое ў міліцэйскай форме.

— Мусіць, Беса будуць арыштоўваць, — выказаў здагадку Стась.

Калёсы спыніліся ля двара Гарышчука. Прыезджыя затрымаліся там на паўгадзіны, а то і болей. Потым пешшу рушылі да сельсавета. Захар Астапавіч вёў за лейцы каня і аб нечым горача гаварыў з лейтэнантам Дарошыным. Міліцыянеры ішлі ззаду.

Захар Астапавіч адразу заўважыў хлопцаў (яны знарок далёка не адыходзілі) і штосьці сказаў Дарошыну, паказваючы вачмі

на Пецьку і Стася. Лейтэнант папрасіў хлопцаў падысці бліжэй.

— Значыць, вы бачылі, дзе грамадзянін Беспшанічны хаваў збожжа? — спытаў ён, калі зайшлі ў сельсавет.

— Вядома, бачылі, — не маргнуўшы вокам, адказаў Пецька. — У капліцы, што на могілках.

— І не адзін раз, — дадаў Стась.

— Ведаеце, хто памагаў яму?

— Адам Варанчук, — зноў першым адказаў Пецька, і Стасю нічога не заставалася, як закончыць:

— А трэцяга мы не пазналі...

— Нічога, цяпер і трэці стане вядомы, — запэўніў Дарошын і адразу загадаў міліцыянерам: — Беспшанічнага і Варанчука Адама арыштаваць!

Хвілін праз дваццаць з хаты вывелі Беса. Быў ён у ватоўцы, але без шапкі. У валасах паблісквала першая сівізна. Глыбокія маршчыны прарэзалі твар. Выглядаў Беспшанічны значна старэйшым, чым звычайна.

Насустрач вялі Адама. І таго сёння не пазнаць: і ростам нібы ніжэйшы, бо ўцяў голаў у плечы, і не ставала ранейшай рухавасці.

Бес і Адам, сустрэўшыся, на хвілю запынілі крок, нядобра зіркнулі адзін на аднаго і разышліся.

— Варанчука — у свіран, а Беспшанічнага — да мяне! — распарадзіўся Дарошын.

Бес, як толькі зайшоў у сельсавет, адразу запытаў:

— Калі чалавека судзяць, яму аб'яўляюць прыгавор. Скажыце, у чым я прывінаваціўся, што мяне арыштавалі.

— Вы спачатку сядайце, — запрасіў лейтэнант, а калі Беспшанічны апусціўся на стул, працягваў: — А зараз будзем гаварыць: вы, грамадзянін Беспшанічны, абвінавачваецеся ў тым, што кралі калгасную зямлю і засявалі яе жытам, пшаніцаю...

— Як я мог украсці зямлю? — Бес зрабіў вясёлую міну. — Што, зямля — гэта яблык, узяў у кішэню і панёс?

— Не хітруйце, не хітруйце, калі ласка! — спыніў Бесаву балбатню Дарошын. — Мы ведаем, што раней у вас было нямала зямлі. Ды вам, мусіць, здавалася недастаткова, бо вы выраблялі кавалачкі і ў лесе. Часам у такіх месцах, што не кожны паляўнічы нават адшукае. Арганізавалі калгас — а вы пра гэту зямлю нікому не сказалі, а паціху засявалі. Каб ніхто не заўважыў, ноччу вазілі снапы дамоў, ноччу і малацілі, а збожжа хавалі...

— Дык у чым справа, таварыш лейтэнант! — ажывіўся Беспшанічны. — Хадземце, пашукаем у мяне. Мяшкі збожжа — гэта не іголка, што схаваць можна. Знойдзеце — будзе вам доказ, а так — нагавор!

— І пайшлі б мы, і шукалі б у вас, грамадзянін Беспшанічны,

калі б не ведалі, што збожжа сваё вы ў капліцы хаваеце. Мы вас разумем: лепшага месца знайсці цяжка. Не кожны здагадаецца, што ў такім месцы можна мяшкі з крадзеным трымаць, не кожны і пойдзе на могілкі. Асабліва ноччу!..

— Пойдзем пашукаем у капліцы! — тут жа заявіў Беспшанічны.

— Возьмем панятых, — адказаў лейтэнант, — і пашукаем!

— Пашукайце, пашукайце, — усміхнуўся Бес.

Як разняслася вестка па Стараселлі, невядома. Толькі сабралася шмат цікаўных паглядзець, што ж усё-такі хавалі ў капліцы. Гаварылі грозна, абуральна:

— Няўжо святое месца апаганіў?!

— Во да чаго дайшоў, гад! Павесіць яго мала!

Бес чуў гэтыя словы, баяўся ўзняць вочы на людзей, хаця і апраўдваўся:

— Не верце, людзі добрыя: нагаворы ўсё гэта на мяне! Убачыце, што нагаворы!

Прыйшлі да капліцы, са скрыпам адчынілі дзверы. Адтуль дыхнула нежылым памяшканнем і холадам, як са склепа. На сценах віселі сям-там абразы. Можна было не запальваць святла: і так было бачна, што нічога ў капліцы няма. Але Дарошын уключыў ліхтарык. Святло прабегла па цэментаванай падлозе і спынілася на невялікай кучцы ячменных зярнят. Іх Захар Астапавіч старана сабраў у хустачку.

— Ну, што цяпер скажаце, грамадзянін Беспшанічны? — запытаў Дарошын, калі выйшлі з капліцы.

— Самі бачыце, — спакойна адказваў Бес, — узвялі паклёп на мяне злыя языкі, а вы і паверылі.

— Скажыце, а як сталася, што ў капліцу трапілі зярняты?

— Адкуль мне ведаць! Мо якая набожная бабуля свячоныя згубіла? — не задумваючыся, адказаў Бес.

— Калі б мы маглі зараз праверыць зярняты лабараторным спосабам, дакладна маглі б сказаць, што зярняты з ураджаю года. Як дакладна ведаем, што мяшкі вы хавалі ў капліцы. Людзі бачылі...

— А дзе яны, мяшкі тыя, калі я ў капліцы хаваў? — стаяў на сваім Беспшанічны.

— Гэтае пытанне я павінен вам задаць, Антон Андрэевіч? Раз не знайшлі тут — значыць, перахавалі ў іншае месца. Дык куды перавязлі мяшкі?

— Ні пра якія мяшкі я не ведаю, таварыш лейтэнант!

— Так і адзначым: не хацеў прызнавацца! Што ж, скажуць іншыя, але вам горш будзе, — папярэдзіў Дарошын.

— Хто іншыя? — устрапянуўся Бес.

— Напрыклад, Варанчук, які дапамагаў вам хаваць збожжа ў капліцы і перахоўваць, думаю, таксама. Бо аднаму чалавеку столькі мяхоў пагрузіць не па сіле…

Бес раптам з палёгкаю ўздыхнуў і ўпарта паўтарыў:

— Нічога я не ведаю!

— Араштаванага грамадзяніна Беспшанічнага, — распарадзіўся лейтэнант, пасадзіць у свіран. Асобна ад Варанчука.

Тут хлопцы трапілі Дарошыну пад руку:

— Вы сцвярджалі, што Беспшанічны збожжа ў капліцу хаваў, а яго там няма…

— Хаваў. Бачылі са Стасем, як хаваў, — нібы апраўдваўся Пецька. — Адзін раз аж пяць мяшкоў налічыў!

— Куды ж яны падзеліся? — задуменна разважаў Дарошын. — Можа, дзе ў зямлю закапаў? Няхай і пад зямлёй будуць — усё роўна знойдзем. Абавязкова знойдзем!..

## 12. У ВОЎЧЫХ ЯМАХ

Хлопцы разам рашылі цяжкую задачу і пайшлі ў школу, вельмі шкадуючы, што не ўбачаць, ці знойдзе Дарошын перахаваныя мяшкі са збожжам.

А далей падзеі развіваліся хутка. На допыт лейтэнант міліцыі Дарошын выклікаў Варанчука. Як ні выкручваўся Адам, нарэшце, калі Дарошын паабяцаў звесці на вочную стаўку з тымі, хто бачыў, як ён дапамагаў Беспшанічнаму хаваць зерне ў капліцы, прызнаўся:

— Мяшкі зараз у Воўчых Ямах.

— Што гэта за Воўчыя Ямы? — пацікавіўся лейтэнант.

— Ёсць такая глухая мясціна недалёка ад Стараселля, — пацвердзіў Захар Астапавіч. — Калісь, у векі-вечныя, там людзі гліну бралі. Старыя людзі баюць, што пасяліліся неяк у тых копанках ваўкі. А падлеткі вазьмі і выкрадзі ваўчанят. Ваўчыца-маці, мабыць пачула дзіцячы пах, бо накідвалася на хлапчукоў і загрызала. Аж пакуль не застрэлілі яе. Людзі і дагэтуль баяцца хадзіць туды…

— У тых копанках і схавалі, — пацвердзіў Варанчук.

— А калі хто-небудзь наброў бы на мяшкі? Хоць выпадкова.

— Мы з раніцаю хмызняку нарубалі і закрылі іх.

— Не баяліся, што зерне сапсуецца? Пагніе?

— Антон казаў, што гэта часова, пакуль пройдзе шуміха, а потым зноў у капліцу перавязём…

— А як жа вы ўхітраліся і каня ноччу ўкрасці, і калёсы?

— Ніхто нічога не краў! Вы ведаеце, калгасных коней дагледае Антон Беспшанічны. Адзін воз ён здаў у калгас, а другі — у яго застаўся…

— Праглядзелі мы грамадзяніна Беспшанічнага, не раскулачылі, — не то сябе, не то старшыню сельсавета папракнуў лейтэнант. — А потым яшчэ пусцілі, што называецца казла ў агарод: даверылі яму даглядаць коней. Добра, што не атруціў каня. А то такія выпадкі былі.

— Выходзіць, што праглядзелі, — згадзіўся і Захар Астапавіч.

— А чаму вы дапамагалі Бесшнанічнаму? — звярнуўся зноў да Варанчука Дарошын. — За дзякуй, ці паабяцаў што?

— Хто за дзякуў будзе кожны вечар дрыжаць? — з крывою ўсмешкай адказваў той. — Антон абяцаў мне пяць мяшкоў пшаніцы даць.

— Ф'юць, дарага! — аж прысвіснуў Захар Астапавіч.

— А хто трэці быў з вамі? — Дарошын глянуў проста ў вочы Адаму.

Варанчук раптам падскочыў, як падстрэлены заяц, і хуткахутка залапатаў:

— Я нікога не ведаю!.. Я нікога не ведаю!

— Як жа вы не ведаеце, грамадзянін Варанчук?! — спакойна заўважыў лейтэнант. — Ён жа дапамагаў Беспшанічнаму і зерне хаваць у капліцы, і салому — у хаце лесніка.

— Салому я ніколі не хаваў, — заявіў Адам.

— Затое мяшкі разам у капліцу зносілі. Дык хто?

— Баюся я! Баюся! — заёрзаў Варанчук. — Заб'е ён мяне. Далі бог, заб'е. Абяцаў, калі прагаваруся.

— Па-першае, нядоўга яму самому гуляць на свабодзе, а падругое, пакуль вы тут, ніхто вас і пальцам кранудь не зможа...

— Я скажу... я скажу... толькі каб ніхто не дазнаўся, што ад мяне стала вядома, інакш...

— Дык хто?

— Айцец Марцін, — і Варанчук раптам зацiснуў рот, як бы баючыся, што прагаварыўся ў нечым.

— Колішні старасельскі бацюшка Марцін Хадонак, — удакладніў Захар Астапавіч.

— А хіба ён не ўцёк за мяжу?

— Не, ён тут... Толькі я нічога не казаў.

— А дзе зараз Марцін Хадонак? — вёў далей допыт Дарошын.

Варанчук зноў азірнуўся ў адзін бок, у другі, быццам яго, і праўда, маглі падслухаць, і стаў адгаворвацца:

— Я не ведаю дзе. Не ведаю я...

Празмерная Адамава рухавасць падказала Дарошыну, што Варанчук маніць, выкручваецца, як можа. І ён сказаў толькі адно слова: «Ведаеце!» — але такім тонам, быццам у адно імгненне прыкаваў былога царкоўнага вартаўніка да крэсла. І той, здаецца, перасіліў боязь, стаў расказваць:

— Калі мы хавалі мяшкі, чуў я, што Антон наказваў айцу Марціну ісці ў Заголле. Там жыве Антонава сястра Алена. Мусіць, айцец Марцін зараз у яе, — выгаварыўшыся, Варанчук ізноў пачаў прасіцца: — Толькі, калі ласка, не выдавайце мяне. Бо айцец Марцін — такі звер, што ніколі не пашкадуе, заб’е і вокам не маргне...

— Не трусіцеся — не дастане ён вас!

Дарошын выклікаў міліцыянера і загадаў завесці Варанчука назад у свіран.

Людзі ў хуткім часе рушылі ва ўрочышча Воўчыя Ямы. Зразумеўшы, што побач адзін міліцыянер, які вартуе арыштаваных, Беспшанічны стаў прасіць:

— Хлопец, хіба хочацца табе нашай смерці? Будзь ласкавы, адпусці, — і, не дачакаўшыся адказу, працягваў: — Няўжо ў цябе бацькі няма? А каб яго гэтак пасадзілі?

— Майго бацьку не маглі пасадзіць, бо ён сумленны чалавек. А размаўляць з вамі не маю права! І вам загадваю маўчаць!

— Выпусці — золатам аддзячу! — праз хвіліну абяцаў Бес. — На ўсё жыццё табе хопіць.

Міліцыянер маўчаў.

***

Можа, першы раз за ўсё апошнія годы людзі гурбою ішлі і ехалі ў Воўчыя Ямы. Калёсы тарахцелі па калдобінах і каранях. Людзі нягучна перагаворваліся.

Мяшкі адшукаў Хведар Залескі. Ён падышоў да ямы, заваленай лазовым хмызам, бярозкамі, адкінуў некалькі штук убок і аб'явіў:

— Тут збожжа!

Усе кінуліся да яго. Калі сцягнулі ўвесь хмыз, убачылі мноства мяшкоў, складзеных адзін на адзін.

— І ўсё гэта Бесава? — не паверыла Паліна Вярэшка, Стасева маці.

— Яго, — пацвердзіў Дарошын.

— А навошта яму столькі?

— Быццам на ўсё жыццё запасціся захацеў? — нібы працягваў Палініны словы дзед Максім Захарчук.

— А дзецьмі кляўся, што няма збожжа, — ківаў галавою Хведар Залескі. — На людзях ліў слёзы!

— Хі-ітры! — не скрываючы нянавісці, гаварыў дзед Максім Захарчук. —

Бес як бес!

Ледзь у сем вазоў угрузілі ўсё збожжа, што знайшлі ў Воўчых Ямах.

## 13. ЗАЦКАВАНЫ ЗВЕР

Чаму так баяўся Адам Варанчук, калі называў імя айца Марціна? Шмат ведаў былы царкоўны вартаўнік пра Марціна Хадонка. Хаця і не ўсё...

Жыццё, як лічыў сам Марцін, не ўдалося ў яго. Не паспеў ён нарадзіцца, як адбылася рэвалюцыя. Марціна Баршчэўскага, яго бацьку, расстралялі, а маёнтак адабралі.

Прыгожая пані Гэлена неўзабаве выйшла замуж за бухгалтара Барыса Хадонка. Ён усынавіў Марціна, перапісаўшы на сваё прозвішча. Гэлена, аднак, ці то па-ранейшаму кахала свайго першага мужа, ці то шкадавала адабраны маёнтак, але часта ўспамінала старыя часы. Змалку Марцін узненавідзеў і Барыса Хадонка, і Савецкую ўладу, якая несправядліва, на яго думку, аднеслася да сям'і Баршчэўскіх.

Калі Марцін закончыў школу, на жах бацькі-айчыма, паступіў у духоўную семінарыю. У сорак першым малады бацюшка прыехаў працаваць у Стараселле. Высокі, з чорнай барадою і басавітым голасам, ён вёў службу ў царкве і ў час вайны.

Рознае гаварылі пра айца Марціна. Ён нібыта не толькі благаслаўляў карнікаў на крывавыя справы, але і сам часам браў у рукі аўтамат, страляў у людзей. У Стараселлі верылі гэтым чуткам і не верылі...

Адзін раз Марцін Хадонак, і праўда, узяў аўтамат. Гэта здарылася, калі расстрэльвалі схопленых партызан. Адзін быў асабліва стойкі. «Вось такі забіў майго бацьку!» — сказаў тады сабе Марцін і выпусціў цэлы зарад у партызана. Яго ўчынак заўважылі і нават уручылі новенькі карабін з патронамі.

Калі ж фронт падышоў блізка, айцец Марцін зразумеў, што і яму пара ўцякаць. Ноччу, выкраўшы некаторыя залатыя і сярэбраныя рэчы, бацюшка падпаліў драўляную царкву, а сам падаўся ў Заголле, дзе размяшчалася нямецкая камендатура. Але спазніўся: гітлераўцы пакінулі ўжо Заголле. Айцец Марцін быў у адчаі.

Праз два дні, схаваўшы ўкрадзеныя царкоўныя рэчы, ён вярнуўся да Адама Варанчука. Той сустрэў бацюшку нязветла.

— А вы хіба не з імі паехалі? — і Марцін зразумеў, што Адам Варанчук мае на ўвазе немцаў. — Людзі у нас баюць, што вы з імі падаліся.

— Ну і добра, што баюць! Тады шукаць не будуць.

— Час усё-такі зараз неспакойны, — дрыжачым голасам гаварыў царкоўны вартаўнік. — Кожны, хто вас убачыць, можа выдаць!

— Ды не скавычы ты, Адаме, як пёс шалудзівы, — груба засмяяўся Марцін. — Ненадоўга я да цябе...

Адам і Марцін зрабілі на гарышчы логава. Як для ваўка. Не

даваючы блізкім, Адам сам насіў госцю ежу. Тыдні са два Марцін сядзеў ціха. Потым папрасіў паліто, больш хлеба і сала.

Раніцай, калі Адам Варанчук залез на гарышча, логава было пустое: госць пакінуў жытло ноччу. Колькі страху перанёс Адам за апошнія дні! І зараз, адчуўшы палёгку, зарагатаў моцна, не пачалавечы...

***

Больш як пяць гадоў айцец Марцін не даваў пра сябе знаць. Адам усё радзей успамінаў былога бацюшку. А таму ўдалося пад Гомелем уладкавацца дзяком. Працаваў, стараючыся, як мага радзей паказвацца на людзях. Думаў, што прыжыўся.

Але аднойчы запыніў Марціна ўчастковы міліцыянер, стаў распытваць, хто ён і адкуль. Захваляваўся Хадонак. А калі ў другі раз міліцыянер зайшоў да яго ў дом, Марцін зразумеў: трэба забіраць рэчы і ўцякаць...

Цёмнай ноччу, калі за два-тры крокі нельга было пазнаць чалавека, пастукаў ён у Адамава акно. Былы царкоўны вартаўнік, пачуўшы густы Марцінаў бас, закалаціўся ўсім целам. «Які чорт яго прынёс!» — думаў Адам, адчыняючы дзверы. Ён выйшаў к госцю на вуліцу.

— Я зноўку да цябе, Адаме, — замест прывітання сказаў Марцін. — Пажыву ў цябе трохі і пайду...

Яны пайшлі на загуменне. Каб ніхто не ўбачыў і не падслухаў іх. Марцін коратка расказаў пра сябе, а затым пацікавіўся:

— Ну, а ў вас што новага?

Варанчук паціснуў плячамі:

— Быццам нічога!

— А што чуваць пра калгасы?

— Арганізоўваюцца.

— І ты арганізоўваеш?! — нядобра зыркнуў на Адама Марцін.

— Я што, пешка маленькая, — заспяшаўся апраўдацца Варанчук. — Без мяне спраўляюцца.

— І раскулачваюць?

— Раскулачылі некаторых. А Антон Беспшанічны ўтрымаўся. Хоць ліпеў, як ліст на асіне.

— Я ведаў, што Антоній — разумны чалавек, — пахваліў Беспшанічнага Марцін Хадонак. — Але быць яму, рабу божаму Антонію бедняком такім жа, як Хведзька Залескі! — нараспеў прадэкламаваў ён і засмяяўся.

У наступную ноч Адам прывёў да Марціна Антона Беспшанічнага. Гаварылі на тым жа загуменні. Доўга Марцін вучыў Беса, як зрабіць, каб ніводнае зярнятка, сабранае з далёкіх лясных палеткаў, не трапіла ў калгасны свіран.

Варанчук вельмі баяўся, што хто-небудзь у Стараселлі выведае пра няпрошанага госця, які знайшоў для сябе жытло на яго гарышчы. І не раз намякаў, каб ён выбраўся ад яго. Калі завезлі салому ў леснічоўку, Марцін нарэшце вырашыў у ёй пажыць да зімы.

— Толькі нідзе нікому пра мяне не пікні! Інакш застрэлю, як апошняга сабаку. Не хопіць кулі — задаўлю, як блыху. Памятай, Юда не будзе жыць на свеце, — прыгразіў Марцін, пакідаючы Адама.

Ён час ад часу наведваўся ў Стараселле к Бесу. Памагаў яму малаціць і вазіць збажыну. Калі не ўпраўляўся да ранку вярнуцца ў лес, начаваў у Беспшанічнага.

У той дзень, калі хлапчукі з кошыкамі аказаліся на ганку старой леснічоўкі, Марцін нюхам звера адчуў: гэта — не выпадкова! Як і не выпадкова тое, што іх выслежвалі каля капліцы.

Ноччу ён падпаліў леснічоўку. З радасцю вар'ята гладзеў, як агонь есць хаціну. Хацелася смяяцца, крычаць дзіка…

Але тут з'явіліся людзі. Марцін ледзь паспеў схавацца ў цемры. Яны сталі тушыць пажар. І ён не сцярпеў, выстраліў у таго, каго лічыў найпершым ворагам. Потым вярнуўся да Беса.

— Трэба перахаваць збожжа! — сказаў ён.

— Чаму?

— Думаеш, ніхто не ведае, дзе яно? Памятаеш, як вазілі, Вярэшкаў сапляк падглядваў? Ён жа маўчаць не будзе!

— Ладна, заўтра перавязём.

— Калі сёння не паспеем, заўтра позна будзе! — строга заначыў Марцін. — Ідзі, Антоній, запрагай каня, а я паклічу Адама.

Але дарогаю ён падумаў, што зараз добра б займець у памагатыя і Панаса Гарышчука. Ён павінен ненавідзець калгаснікаў за тое, што паперлі са старшыні. З гэтымі думкамі Марцін зайшоў у двор Гарышчука. Але той наадрэз адмовіўся памагаць. «Выдасць!» — адразу з'явілася ў Марцінавай галаве думка. Трэба было ўбіраць непакорнага.

— Не хочаш памагаць, не хочаш зарабіць для сям'і збажыны, — як найлагадней загаварыў Марцін Хадонак, — і не трэба: самі ўправімся. Толькі каб маўчаў!

— Што я не разумею…

— То ідзі! — прытворна-ласкава казаў Марцін, а рука ў кішэні намацала ўжо нож.

Панас яшчэ хвіліну пастаяў, відаць здзіўляючыся, што так лёгка адгаварыўся. Павярнуўся спіною — і са стогнам паваліўся на зямлю. Марцін выцер акрываўлены нож аб траву, пастаяў, прыслухоўваючыся, і пайшоў да Варанчука…

Цэлую ноч перавозілі збожжа ў Воўчыя Ямы. Калі стала брацца на світанак, стомлены Беспшанічны прысеў на пень і,

гледзячы сабе пад ногі, сказаў:

— Вас, айцец Марцін, кожны ў Стараселлі ведае. Можа, лепш вам пакуль пажыць у маёй сястры Алены?..

Разумеючы, што Антон гаворыць правільна, Марцін Хадонак адразу ж падаўся ў Заголле.

## 14. ЯК ЗЛАВІЛІ АЙЦА МАРЦІНА

Да Заголля засталося кіламетры са два, калі Захар Астапавіч спыніў каня.

— Мне здаецца, — сказаў ён, — не варта ўдзень у вёску заязджаць. Бацюшка гэты — хітры, бы чорт. Уцячы можа, а то і заб’е каго. Пачакаем у хмызняку да вечара.

— А што з канём рабіць? — спытаў Дарошын.

— На гэтым хутары, — паказаў Захар Астапавіч, — мой добры прыяцель Іван Куніцкі жыве. Да яго і трэба завесці каня. Па старой памяці дагледзіць, пакорміць...

— То, можа, хай гэта зробіць Марушчык?

— Не, трэба мне сустрэцца са сваім старым знаёмымі

— весела падміргнуў Захар Астапавіч. — Калі яшчэ змагу я выбрацца да яго?!

— Раз трэба, дык трэба! — зразумеў старшыню Старасельскага сельсавета Дарошын.

Не даязджаючы да Куніцкага, Захар Астапавіч саскочыў з драбін і пайшоў ля воза. Зайшоўшы ў двор, ён вачамі шукаў гаспадара. А той, спяшаўся ўжо насустрач. Паміж імі адбылася такая размова:

— Здароў, Іван!

— Здароў, Захар!

— Няхай мой конь пастаіць у цябе, пакуль я з Заголля прыйду...

— Нешта ты цямніш, Захарка, — не паверыў Іван.

— Ну, калі ты пра цемнату загаварыў, дык не бачыў ты цёмнага чалавека, які ішоў паўз твой двор? — у такт сказаў Сакольчык.

— Цёмны — гэта значыць з чорнаю барадою?

— Так.

— Ён спяшаўся і ўвесь час азіраўся па баках?

— Так.

— Не, не бачыў! — зарагатаў Куніцкі. А праз хвіліну запытаў:
— А навошта ён табе?

— Хачу запытаць у яго, як можна вырасціць такую чорную бараду.

— Такую не вырасціш, бо ты белагаловы...

Яны сустракаліся не раз і добра разумелі адзін аднаго. І нават

гэтыя, не зусім звычайныя жарты. Не развітваючыся, Захар Астапавіч рушыў да варот.

— Не забудзь, Іван, каня майго пакарміць, — напомніў яшчэ раз ён.

Вярнуўшыся, Захар Астапавіч упэўнена сказаў:

— Марцін Хадонак у Заголлі. Яго Іван Куніцкі бачыў.

Не паспелі яны прыдумаць, як выманіць Марціна з Аленінай хаты, як Дарошын заўважыў, што праз кусты прастуе хлапчанё:

— Глядзі!

— Дык гэта ж Бесаў сын, — прыглядзеўся Захар Астапавіч.

— Што яшчэ за Бесаў сын?

— Хіба вы забыліся, што Беспшанічнага ў Стараселлі завуць Бесам?

— Ах, так...

Захар Астапавіч выйшаў насустрач хлопчыку:

— Семка, пачакай!

Хлапчук, напэўна, хацеў задаць драпака, але, заўважыўшы знаёмага, спыніўся.

— Куды бяжыш?

— Мамка дала занесці цётцы Алене, — паказаў Семка.

Захар Астапавіч развязаў хустку: у ёй былі дзве талеркі. Паміж імі ляжала запіска: «Антона і Адама арыштавалі. Адашлі бацюшку...»

Сакольчык непрыкметна прачытаў напісанае і зноў завязаў хустку.

— Ну, добра, нясі талеркі цётцы Алене, — пусціў ён Сёмку.

— Навошта вы яго адпусцілі? — падышоў Дарошын, калі хлапчук знік з вачэй.

— Панёс Семка такую запіску, — адказваў старшыня сельсавета, — ад якой айцу Марціну стане горача ў Аленінай хаце, як шчупаку на патэльні. І пабяжыць ён адтуль, колькі сіл маціме...

Значыць, трэба акружыць хату, пакуль Хадонак не збег! — адзначыў Дарошын.

Ён, міліцыянер Марушчык і Захар Астапавіч неўзаметку, з агародаў, зайшлі ў Заголле і акружылі Аленін дом.

Чакаць прыйшлося нядоўга: мінут праз дзесяць-дванаццаць дзверы скрыпнулі і расчыніліся. На падворках, нізка прыгінаючыся і азіраючыся па баках. Выскачыў Марцін Хадонак. Ён нешта нёс пад пахаю.

— Рукі ўгору! — не голасна, але строга скамандаваў Дарошын.

Айцец Марцін, няйначай, не чакаў нікога ў двары і, пачуўшы грозны голас загаду, на хвіліну разгубіўся. Карабін выслізнуў з-пад крыса і шлёпнуўся пад ногі. Не даючы яму апамятавацца,

насустрач выйшлі трое. Два трымалі напагатове пісталеты.

Дарошын падняў карабін.

— Ого, а карабін чык нямецкі! Паляваннем бацюшка займаўся, ці так... на людзей?

Што ж мог на гэта адказаць айцец Марцін!..

***

Позна ноччу, калі ярка свяціла поўня, а вёска ўжо спала, у Стараселле прывезлі айца Марціна. А раніцай, як хлопцы прачнуліся, пачулі вестку — арыштаваных вязуць у раён.

Стась і Пецька прыбеглі да сельсавета. Многія былі ўжо там. Арыштаваныя сядзелі на падводах. На першай — Бес і Адам, на другой — айцец Марцін. Ззаду прымасціліся міліцыянеры.

Людзі з пагардаю глядзелі на арыштаваных. Раней на светлым папоўскім твары была невялічкая, нібы завостраная, чорная бародка. Цяпер — відаць, даўно не галіўся — твар амаль да вачэй зарос смаліста-чорнай шэрсцю.

— Бывайце, людзі праваслаўныя! За веру хрысціянскую панясу пакаранне! — як на пропаведзі, нечакана сказаў айцец Марцін.

— За якую веру?! — адказаў дзед Максім Захарчук і са злосцю плюнуў.

— Такія, як ты, майго мужа забілі, — прагаварыла Панасіха. — Каб цябе людзі добрыя не зналі!

Астатнія зацята маўчалі. А Пецька Сакольчык засунуў пальцы ў рот і прарэзліва свіснуў.

На людзей дзіка глядзелі Марцінавы вочы.

## 15. ТАТА ПРЫЕХАЎ

Прыйшла зіма. Дні сталі кароткімі, і, калі вучні другой змены вярталіся са школы, у хатах гарэлі агні. Сёння Стась Вярэшка адразу пасля заняткаў бег дадому — нарэшце з бальніцы вярнуўся бацька.

Стась быў гатовы кінуцца тату на шыю, але заўважыў: у таго — госць. І спыніўся ў нерашучасці.

— Ну. Дык добры дзень, Стасік! — першым рушыў насустрач бацька. — А гэта ж лейтэнанат міліцыі Дарошын. Ён расказваў, як вы з Пецькам дапамагалі Беса злавіць. Дый усіх астатніх.

— Добры ў цябе, Станіслававіч, сын вырас, — пацвердзіў Дарошын, — Справядлівы, смелы.

Стась аж падрос ад такой пахвалы.

— Ну, мне пара! Дый цёмна ўжо на вуліцы, — падняўся лейтэнант. — А ты, Станіслававіч, папраўляйся хутчэй і за працу!

Дарошын адказыраў і выйшаў.

— Мы з татам вырашылі схадзіць у кіно, — сказала маці. — Ідзі на кухню павячэрай і збірайся з намі. Я думаю, што ты засумаваў па тату і хочаш пабыць разам з ім.

— Дый і па кіно ён засумаваў, — з усмешкаю удакладніў бацька.

І ён меў рацыю. Фільмы рэдка прывозілі ў Стараселле: раз-два ў месяц. Паказвалі іх у школе. Але хіба кожны раз выпрасіш у маці капеек, каб паглядзець кіно!

Калі Стась, тата і мама падышлі да школы, затарахацеў рухавічок. Кінамеханік дзядзька Саша пачаў прадаваць білеты.

Тата купіў білеты, і шчаслівы Стась заняў месца ў классе побач з дарослымі. Паказвалі фільм «Аляксандр Пархоменка». Карціна так захапіла хлопца, што ён забыўся пра ўсё на свеце. Толькі радасна ўскрыкваў, калі

Аляксандр Пархоменка граміў белякоў. Бацька паглядаў на яго, пасміхаўся…

Маці была ў кіно першы раз і ўсю дарогу дадому не пераставала здзіўляцца:

— Што ні кажыце, а гэта — цуд! Сяджу я ў Старасельскай школе, а бачу, што даўно ўжо і далёка адбывалася…

— Што тут дзіўнага! — не пагадзіўся з ёю бацька. — Чуў я, будзе яшчэ так, што дома, нікуды яе ідучы, кожны зможа кіно паглядзець.

— Як гэта дома?

— Так, як зараз радыё слухаеш…

Стась чуў іх гаворку і радаваўся: «Тата ўсё-ўсё ведае! Як добра, што ён нарэшце дома!..»

## 16. ПЕРШЫ ПОДЫХ ВЯСНЫ

Зіма выдалася сцюдзёная: маразы за маразамі, маразы за маразамі, снег як лёг пад Новы год, так і не растаў. Людзі засумавалі па цяплу і вясне. А яна быццам і не спяшалася прыходзіць.

На календары — сакавік, у чацвёртым класе вывучаюць верш Янкі Купалы «Вясна», а глянеш за акно — зляжалы, счарнелы снег.

Марыя Сямёнаўна чытае верш:

Згінулі сцюжы, марозы, мяцеліцы,
Болей не мерзне душа ні адна,
Сонейкам цёпленькім, зеленню вабнаю
Абдаравала зямельку вясна.

Настаўніца задае вывучыць верш на памяць, і гучны званок кліча вучняў на вялікі перапынак.

Калі Сцёпка Пташнік паспеў пабываць на вуліцы, толькі ўварваўся ён у клас і, радасны, усклікнуў:

— Трактар ідзе! Толік Залескі едзе на ім!

Вучні высыпалі на вуліцу. Ды што дзятва — усе старасельцы са здзіўленнем глядзяць на незвычайную машыну. Глядзяць, вохаюць.

Над трактарам палымнее чырвоны сцяжок. Наперадзе тры літары «ХТЗ». Рухаецца трактар важна, не спяшаючыся: ад яго можна не адстаць, калі бегчы. І хлапчукі імчацца ўслед за машынаю.

— Толік! — гукае Пецька Сакольчык. — Падвязі крышку!

Але Толік, мабыць, не чуе яго. Ён такі важны, як цар на троне.

Вялікія жалезныя колы рэжуць веснавы, цвёрды снег. Трактар кіруецца да праўлення калгаса. Калі ён спыняецца і Толік саскоквае на зямлю, на ганак выходзіць старшыня Андрэй Станіслававіч. За ім — Захар Астапавіч.

— Вось трактар, — неяк вельмі проста гаворыць Толік Залескі і чамусьці выцірае рукі аб камбінезон. І, справіўшыся са збянтэжанасцю, дадае: — На ім буду працаваць у калгасе!

— Бачу! — гаворыць Андрэй Станіслававіч і раптам разумее: людзі, якія сабраліся ля праўлення, чакаюць, што ён скажа. Ды і Захар Астапавіч, нібыта ўгадваючы яго думкі, сказаў:

— Давай, Андрэй, выступі!

— Не навучаны я гаварыць прамовы, — пачаў было Андрэй Станіслававіч, — але сёння, калі ў нас такая радасць, скажу вам, старасельцы: нездарма мы аб'ядналіся ў калгас «Светлы шлях» — разам будзем шукаць светлую жыццёвую дарогу! Дзяржава клапоціцца, каб нам было лягчэй працаваць, і прыслала на дапамогу трактар. Няхай ён гудзе на нашых палях не сціхаючы!..

Людзі раптоўна заляскалі ў ладкі, крыху збіўшы з панталыку прамоўцу. Адна з жанчын, самая цікаўная, запытала:

— Скажы, старшыня, не прыстане гэты жалезны конь у баразне? А то прыйдзецца ўсім гуртам цягнуць яго з поля!

Андрэй Станіслававіч улавіў насмешлівы тон і адказаў, звяртаючыся да Толіка Залеснага:

— Спытайце ў трактарыста. Ён лепей ведае, ці натурлівы конь!

— Не бойцеся, не прыстане! Будзе не адзін плуг цягнуць, а пяць-шэсць!

— А калі сем прычапіць? — запытаў Пецька Сакольчык, які даўно прабраўся наперад.

— І сем пацягне!

— І многа-многа?

— І многа асіліць. Не бойцеся, усё ўзарэ!

— Чорны, як жук, а здаровы! — разважыў дзед Максім Захарчук.

— Ну, то дзякуй табе, Анатоль Хведаравіч, за тое, што навучыўся вадзіць трактар, што дамоў працаваць прыехаў! — Андрэй Станіслававіч паціснуў руку трактарыста, і той паружавеў ад сарамлівасці.

Перапынак даўно ўжо закончыўся. Цётка Ганна выбегла на вуліцу і не пераставала званіць, заклікаючы вучняў у класы.

Хлапчукі ўрэшце бегма кінуліся ў школу. Стась раптам адчуў, што вецер дзьме з захаду і не такі пякучы, як учора. Са школьнай страхі сарвалася празрыстая кропля і са звонам упала ў снег. За ёй — другая, трэцяя...

«Значыць, вясна блізка!» — з радасцю падумаў Стась.

Змест



Літаратурна-мастацкае выданне
БЕНЗЯРУК Расціслаў Мацвеевіч

ДОБРЫ ЗВЫЧАЙ
Апавяданні і аповесці

Рэдактар У.У.Барысюк
Тэхнічны рэдактар Н.С. Матвеева
Малюнкі І.Л. Бурко
Карэктар А.Н. Церашчук